ISSN 0320-7579
№ 10/2015(1049)

# Бярозка



быць паспяховым і ўдзячным

№ 10

**ГАТАВАЛЬНЯ**
Вячэра ў пана Дубатоўка

**ВІКТОРЫЯ МЯНАНАВА**
Метад асабістага прыкладу

**ПАЗАКЛАСНАЕ**
Паміж школай і будучыняй

**ПРА ТЭТРЫС**
і раскладку QWERTY

**КІНАШКОЛА**
ЗАНЯТАК ЧАЦВЁРТЫ. ПРАКТЫЧНЫЯ КРОКІ

Малюнак Даны ЦЮПЕРАК,
Мінская гімназія-каледж мастацтваў

## РЭПАРТАЖ З МОКРАЙ ЛАЎКІ

# КінаГісторыя

***Музей гісторыі беларускага кіно прадстаўляе***



Першы беларускі мастацкі фільм «Лясная быль» («Белдзяржкіно», 1926 год, рэж. Юрый Тарыч). Гераіка-прыгодніцкі фільм, экранізацыя аповесці беларускага пісьменніка Міхася Чарота «Свінапас».






Кінапраектар «ГОЗ—Русь». Адыграў вялікую ролю ў кінафікацыі краіны ў перыяд нямога кіно. Менавіта на такім апараце адбыўся прэм'ерны паказ першага беларускага мастацкага фільма «Лясная быль».



«Сярэбная Мінерва» — гран-пры ў намінацыі «За высокае выканальніцкае майстэрства акцёраў і выдатнае тэхнічнае рашэнне фільма…» на XXII Міжнародным кінафестывалі дзіцячых і юнацкіх фільмаў (Венецыя, 1970) фільма «Іван Макаравіч» (1968, рэж. Ігар Дабралюбаў).

Калекцыя кінаплакатаў да беларускіх фільмаў 1926—1940 гадоў складаецца з 35 поўнафарматных і поўнакаляровых рэпрынтаў. Вынік шматгадовай пошукавай працы супрацоўнікаў Музея гісторыі беларускага кіно (у асноўным у архівах Расіі).






Гукамантажны стол — месца, дзе са скруткаў плёнкі нараджаліся фільмы. Адна з апошніх мадэлей, якая выкарыстоўвалася на нашай кінастудыі.

*Дзе гэта можна ўбачыць: Мінск, вуліца Свярдлова, 4.*

Мастачка Анастасія ХАДАКОЎСКАЯ

# Казка пра Максімаву зорку

Жыла даўным-даўно дзяўчынка, усе звалі яе Маруся. Дзяўчынка зусім не любіла чытаць, але вельмі любіла кожны вечар глядзець у зорнае неба. Глядзець і дзівіцца, як там усё казачна і прыгожа. На небе ў дзяўчынкі была любімая зорка. Астраномы назвалі яе Паўночнай, а Маруся… Аднойчы Маруся назвала яе Максімавай. Хочаце ведаць чаму? Дык слухайце…

Гэта было тады, калі Марусі было ўсяго дванаццаць гадоў. Дзяўчынка, як заўсёды вечарам, глядзела ў зорнае неба. Глядзіць, любуецца, сочыць за адной, другой, трэцяй зоркай. Вось тут павінна быць і самая любімая, ярчэйшая. Але што такое? Самай вялікай не відаць…

Дзяўчыка ўсхвалявалася: што здарылася? Яна звярнулася да таты: «Куды магла падзецца самая вялікая зорка?» Тата выслухаў дачку, параіў пачакаць. А пакуль што, у чаканні, прапанаваў пачытаць. Ён доўга разглядаў на паліцы кнігі, выбіраў. Потым узяў адну і працягнуў Марусі. На вокладцы было напісана: «Максім Багдановіч, Вянок, кніжка выбраных вершаў, Вільня, друкарня Марціна Кухты, 1913».

Дзяўчынка разгарнула кнігу, а з яе выпаў лісток. Яна падняла пажоўклую паперку і прачытала: «Калі хочаш знайсці нешта сваё, прачытай кнігу ад першай да апошняй старонкі». Погляд дзяўчынкі затрымаўся на тых старонках, паміж якімі ляжаў загадкавы лісток. На адной са старонак яна прачытала:

Блішчыць у небе зор пасеў;

А на другой:

У небе месяца праглянуў бледны рог,
У небе ціха зоркі расцвілі…

Марусю быццам зачаравалі. Яна запаліла свечку, паставіла яе на стол. Села на зручны зэдлік і адгарнула першую старонку. Дзяўчынка апынулася «У зачараваным царстве» вершаў Максіма Багдановіча.

Маруся чытала слова за словам, радок за радком і не магла адарвацца. Толькі адзін раз яна, падняўшы вочы, убачыла, як нешта бліснула ў начным небе. Але дзяўчынка зноў апусціла вочы на старонкі дзівоснай кнігі. У гэты вечар яна і заснула з кнігай. На наступны дзень паўтарылася тое ж самае. Маруся чытала верш за вершам, некаторыя перачытвала двойчы. Асабліва ўчытвалася ў тыя радкі, дзе згадваліся зоркі. А калі падымала вочы ад кнігі, то ў начным небе загараліся зоркі, і кожны раз яны былі больш яркімі.

Так доўжылася амаль тыдзень. Маруся чытала цяпер кожны вечар з вялікай ахвотай. Некаторыя вершы яна магла дэкламаваць ужо па памяці. І вось наступіў дзень, калі дзяўчынка загарнула апошнюю старонку чароўнай кнігі. Яна зірнула на неба. Усё яно зіхацела ад вялікай колькасці зорак. Дзяўчынка лёгка згледзела і тую, якую тыдзень таму згубіла. Яна ўспомніла пажоўклую паперку і зразумела: вось і знайшлося тое, што згубілася.

З таго часу Маруся вельмі шмат чытае. А зорку, якая вітае дзяўчынку кожны вечар, яна называе Максімавай.

*Лізавета КАРЧЭНЯ,*
*9 клас, гімназія № 10, Мінск*

# Восень у парку

Яшчэ ўчора на вуліцы ярка свяціла сонейка, гуляючы блікамі на вадзе маленькага азярца ў самым цэнтры гарадскога парку, і ягоныя цёплыя залацістыя праменьчыкі прыемна сагравалі твар. Яны пранікалі ўсюды, гэтыя праменьчыкі. Нават у самыя цёмныя куткі парку і шчыльныя кроны волатаў-дубоў. Па парку бегалі дзеці. Хлопчыкі і дзяўчынкі збіралі жоўтую кляновую лістоту, складалі з яе букеты і дарылі іх бацькам. З ранку да вечара не сціхаў вясёлы гоман у апошнія цёплыя дзянькі.

А ўвечары парк супакойваўся. Па дарожках паважна праходзілі старыя, а закаханая моладзь сядзела ва ўтульных альтанках, атрымліваючы асалоду ад гэтых шчаслівых хвілін.

Так было яшчэ ўчора. А сёння з раніцы ідзе дождж. Дробны, але вельмі з'едлівы і непрыемны. У парку нікога няма, толькі часам з'яўляюцца тут выпадковыя мінакі. Яшчэ ўчора напоўнены людзьмі і вясёлым гоманам, сёння парк выглядае нечакана пустым. З рыпеннем калыхаюцца пад напорам ветру старыя арэлі, дарожкі ўсеяны апалай пажоўклай лістотай. Вось хутка прайшла, агінаючы шматлікія мутныя лужыны, нейкая жанчына. Рэзкі парыў ветру сарваў з дрэва заляцеўшы туды ўчора паветраны шарык, і шарык гэты весела паляцеў па алеі, недарэчна вылучаючыся ярка-чырвонай плямай у гэтым царстве шэрасці і тугі. А дождж усё ідзе і ідзе...

*Мікіта ЦЕЎ,*
*10 клас, СШ № 165, Мінск*

# Вышыю я раніцу, светлую зарніцу…



## АПОШНЯЯ ПЕСНЯ

Колькі радасці, сонца
ў кляновых лістах!
Колькі песень у іх
з адляцеўшага лета!
Ліст кляновы
дрыжыць у руцэ,
Нібы птах…
Толькі вельмі шкада,
Што апошняя
песня гэта!

*Аляксей КОЛЬЧАНКА,*
*9 клас, СШ № 1, Ельск*

## РАЗВІТАННЕ

Падае, падае лісце,
Кружыцца ў паветры.
Восень па лесе крочыць,
Яе падганяе ветрык.
Шэпча апалае лісце,
Ціха ад гора ўздыхае.
Быццам сказаць мне хоча:
Хутка зіма настане.

*Ксенія ШЫМАНОВІЧ,*
*6 клас, Заслаўская СШ № 2*

## ЗЯМЛЯ БАЦЬКОЎ — ЗЯМЛЯ СВЯТАЯ!

Я заўсёды гэтым ганаруся,
Што калісьці ў летнюю пару
Нарадзілася на Беларусі
І на мове продкаў гавару!
Колькі б ні шукала падабенства,
Лепш за родны край мне не знайсці!
Ім зачараваная з маленства,
З ім мне па жыцці далей ісці!
Тут — «зямля бацькоў — зямля святая»,
Тут мяне заўжды хвалюе штосьці.
І ніколі я не прамяняю
Роднай мне з дзяцінства прыгажосці!
Тут натхненню кожнага паэта
Паспрыяюць нівы і лясы…
Родны кут, не раз ужо апеты,
Ты не страціў дзіўнае красы!
Любы край, прымі маё прызнанне:
Ад цябе — нікуды, ні на крок!
Ты ў мяне, як першае каханне!
Мае думкі просяца ў радок…

*Анастасія ДЫЧАНКОВА,*
*8 клас, Дзераўнянская СШ,*
*Стаўбцоўскі раён*

## МАЯ РАДЗІМА — БЕЛАРУСЬ

Мая Радзіма — Беларусь,
Найпрыгажэйшы край у свеце!
Я да цябе заўжды вярнуся,
Куды б жыцця ні кінуў вецер!

Радзіма слаўная дзядоў,
Вялікіх дзеячаў адданых,
Прымі дачок, сыноў любоў,
Удзячнасць нашу і пашану!

Блакіт азёр і зелень лесу
Вясною ў квецені сады,
Адзін разок пабачыш гэта —
Любоў у сэрцы назаўжды!

Радзіма, слаўная Радзіма!
Ты матчын спеў і цеплыня.
Табе, любімая краіна,
У пояс кланяюся я!

*Ганна КАРСЮК,*
*8 клас, Шашкоўская СШ,*
*Стаўбцоўскі раён*

## ВЫШЫВАЛА СЁННЯ Я…

Нітачка да нітачкі —
Тоненькія ўзоры…
Вышывала сёння я
І лісток кляновы,
І на небе сонейка,
І праменьчык яркі…
Нітачка з іголачкай
Паскакалі шпарка.
Вышыю я раніцу,
Светлую зарніцу,
І густую хмарыцу
З яркай бліскавіцай,
І дажджу вясёлага
Чыстыя іскрынкі,
І лугоў зялёныя
Тонкія травінкі.

*Надзея БІЗГЕНЬ,*
*10 клас, Шашкоўская СШ,*
*Стаўбцоўскі раён*

## РАЗМОВА СА ШЧАСЦЕМ

Я спыталася летам у шчасця:
— Ну, калі ж ты вернешся зноў?
— Я з табою тут застануся,
Хоць не кветкай, дык жоўтым лістом.

Потым восенню шчасце гукала:
— Калі ўбачу цябе я зноў?
— Тут з табою я застануся
Не лістотай, дык пухам снягоў.

Ну, а ў весну, як сонца прыгрэе,
І як сыйдзе холад ільдоў,
То блакітнай кветкай, пралескай,
Расцвіту ў тваім сэрцы ізноў.

## ЛЕТА

Лета — гэта рэчка, сонца,
Што заглядвае ў аконца.
Лета — гэта водар кветак
Разліваецца ў паветры.
Лета — раніцай бабуля
Кліча курак: «Гулі! Гулі!»
Лета — гэта…
Гэта значыць,
Што сяброў сваіх убачу!
Праз канікулы, няйначай…

***

Пад шорах лісцяў
На сцяжынках залатых
Павольна засынае лета…
І крочыць восень
Па сцяжынках тых,
Самотным пурпурам сагрэта.



***

Адлятае шчасце
На шырокіх крылах
З белымі буслямі
У далёкі вырай.
Я рукой махаю
Ім на развітанне…

Ты вярніся, шчасце,
Вясной, на світанні!



***

Яблыні галінка стукае ў акенца…
Мусіць, хоча ў хату?
Вецер не пускаюць,
Вось ён і злуецца…
Ці ж ён вінаваты?
Шэры дождж самотны
Без супынку льецца…
Холадна зямельцы,
У дрэў просіць лісця,
Мабыць, каб сагрэцца.
Жоўтай коўдрай яркай
Яе ўсю заслалі.
З дажджом калыханку
Разам праспявалі.
















Мастачка
Анастасія ХАДАКОЎСКАЯ

## ВОСЕНЬСКІЯ КАРАБЛІКІ

Жоўтыя лісточкі
Як караблікі плывуць.
Побач па дарозе
Мінакі ідуць.
Ідуць, не звяртаюць
На іх сваёй увагі.
А сэрцы ў «караблікаў»
Поўныя адвагі.
Сёння ветрык лёгкі,
Шторму не чакаю...

Даплывуць «караблікі»
Да бліжэйшай лужыны,
Як да зямнога краю!

***

Мокры двор і ганак,
Мокрае акенца.
Мокры сад і ранак,
Холадна на сэрцы.

Саграваюць толькі
Цёплыя каміны…
Ды яшчэ шчаслівыя
Летнія ўспаміны.

## ШЧАСЦЕ

Шчасце — гэта ўвесну сонца
Льецца ў маё аконца.
Шчасце — калі дыхае паветра
Раніцаю будучага лета.
Шчасце — мама на вушка
Шэпча: «Уставай, мая дачушка!»
Мы паедзем падарожнічаць па свеце,
Куды хочаш ты і кліча вецер!
Шчасце — што над лесам, полем,
зёлкамі
Неба разліваецца вясёлкамі.

***Наталля САКАЛЯНСКАЯ,***
***11 клас, СШ № 43, Мінск***

# Два паданні



Мастачка Юлія УСАВА

## АДКУЛЬ ПАЙШЛА НАЗВА СВІСЛАЧ

Аднойчы вырашыў яцвяжскі бог Жыжаль праверыць, як людзі выконваюць яго наказы. Спусціўся з нябёс і пайшоў ад сяла да сяла ў вобразе беднага старца. Пасля доўгіх гадоў вандравання прыйшоў ён у адно сяло, што знаходзілася ў пушчы. Убачыўшы нямоглага старога ў лахманах, жыхары сяла сталі хутка зачыняць свае хаты, каб не давялося карміць і даваць начлег гэтаму небараку. І колькі ні стукаў старац у вокны і дзверы, ніхто яму не адчыніў.

Вялікі гнеў авалодаў богам, вырашыў ён пакараць скупых і няўдзячных жыхароў жудаснай карай. Іператварыў тое месца, дзе жылі гэтыя людзі, у балоцістае возера, куды і праваліліся ўсе жыхары разам са сваімі хатамі.

Прайшоў час, зноўку засялілі тую мясцовасць людзі. І назвалі сваё паселішча Свіслач, ад слова «вісла», што азначае «вільгаць» альбо «балота».

А возера тое да нашага часу захавалася і называецца Свіслацкае. А раней называлася Тышкевічскае, бо жыў каля яго пан Тышкевіч, які запрашаў заможных купцоў гандляваць каля возера.


Мастачка Юлія УСАВА

## ПРА КЛЁН І ЛІПУ

Доўгі час раслі побач з гімназіяй горада Свіслач два дрэвы пераплеценыя паміж сабой: клён і ліпа. На жаль, зараз іх тут ужо няма: няўмольны час узяў над імі ўладу.

І вось якое існуе ў нашых мясцінах паданне пра гэтыя дрэвы. Яно, дарэчы, таксама звязана з Жыжалем, які, пераапрануўшыся старцам, зноў даўся хадзіць па свеце.

Пасля таго, як пакараў Жыжаль жыхароў скупога сяла, пайшоў ён далей і на высокім узгорку ўбачыў старэнькую хацінку. Жылі ў ёй дзядуля Ізяслаў і бабуля Багуміла. Яны былі хоць і не багатымі, але вельмі добрымі і гасціннымі гаспадарамі. Калі Жыжаль падышоў бліжэй, Ізяслаў і Багуміла ветліва сустрэлі яго ды запрасілі да сябе. За гэта Жыжаль ператварыў іх маленькую старую хацінку ў вялізны прыгожы палац. А побач узнік храм, дзе Ізяслаў і Багуміла сталі жрацамі.

І заўсёды яны былі разам, а пасля смерці ператварыліся ў дрэвы, клён і ліпу, якія так цесна паміж сабой перапляліся, што складалі амаль адзінае цэлае.

***Дар'я КАСКЕВІЧ,***
***5 клас, гімназія № 1, Свіслач (Гродзенская вобласць)***

# Бетховен і раскладка QWERTY




***Даведаемся яшчэ некалькі цікавых фактаў з гісторыі праграмавання. На гэты раз пра гульні, дыскі, клавіятуру і… «велікодныя яйкі».***

## ЧАМУ СУЧАСНАЯ РАСКЛАДКА КЛАВІЯТУРЫ QWERTY МЕНАВІТА ТАКАЯ?

У асяродку камп'ютаршчыкаў распаўсюджаны міф, што найбольш часта ўжывальная раскладка QWERTY (названая так па першых літарах верхняга радка) была спецыяльна зроблена максімальна нязручнай з усіх магчымых, каб друкарскія машынкі не псаваліся так хутка. Але гэта не так. Першая эксперыментальная друкарская машынка (з'явілася ў 1867 годзе) мела два рады клавіш, размешчаных у алфавітным парадку. Такое іх размяшчэнне прыводзіла да частага счаплення рычагоў і машына ламалася. Каб выправіць гэта, Крыстафер Шоуз, паступова эксперыментуючы з пераносам клавіш, у 1875 годзе стварае рас-

кладку QWERTY. З часам яна амаль не змянілася, толькі літара «М» пераехала на ніжні радок. Упершыню такую раскладку выкарысталі ў друкарскай машынцы «Рэмінгтон 1».

QWERTY — самы распаўсюджаны, але не адзіны спосаб размяшчэння літар. Есць яшчэ раскладка Дворака, створаная ў 1933 годзе, каб выправіць недахопы QWERTY, і адносна новая Colemak (2006 год) — трэцяя па папулярнасці ў свеце. Ёсць яшчэ некалькі «сістэм» размяшчэння літар у асобных краінах, звязаных з асаблівасцямі алфавіта. Напрыклад, у Францыі і Бельгіі вельмі папулярная AZERTY.

## ЯК ПАМЕР КАМПАКТ-ДЫСКА ЗАЛЕЖЫЦЬ АД 9-й СІМФОНІІ БЕТХОВЕНА?

Кампакт-дыск (CD) распрацавалі кампаніі Sony і Philips у 1980 годзе. Да гэтага часу ў іх не было адзінага меркавання наконт аб'ёму дыска. Інжынеры прапаноўвалі тэхнічны варыянт: 100 мм было б ідэальна з пункта гледжання вытворчасці. Але віцэ-прэзідэнт кампаніі Sony, Норыа Ога, музыка, сказаў, што дыск павінен змясціць 9-ю сімфонію Бетховена, у такім выпадку на яго змесяцца каля 95 працэнтаў усіх класічных музычных твораў. Далейшыя даследванні паказалі, што працягласць выканання адной і той жа музыкі можа быць рознай (самым працяглым стала выкананне пад кіраўніцтвам Вільгельма Фуртвернглера — 74 хвіліны). Гэта і стала галоўным аргументам у пытанні пра аб'ём дыска — 700 МБ (да 80 хвілін музыкі).

## ЯКАЯ СУСВЕТНА ВЯДОМАЯ ГУЛЬНЯ БЫЛА СТВОРАНА САВЕЦКІМ ІНЖЫНЕРАМ?



Тэтрыс — гульня, распрацаваная менавіта ў СССР. Зрабіў гэта Аляксей Пажытнаў у чэрвені 1984 года на камп'ютары «Электроніка-60». Працуючы ў вылічальным цэнтры Акадэміі навук СССР, Пажытнаў займаўся праблемамі штучнага інтэлекту і распазнавання маўлення, а для абкаткі ідэй выкарыстоўваў галаваломкі, у тым ліку і класічнае пентаміно — галаваломка з 12 фігур па 5 клетак, якія трэба было скласці ў любым парадку ў пэўную форму, каб атрымаўся прамавугольнік. Аўтар гульні намагаўся аўтаматызаваць гэты працэс. Але вылічальных магутнасцей абсталявання таго часу не хапала, даводзілася «трэніравацца» на тэтраміно (7 фігур і 4 клеткі), ад чаго і пайшла назва гульні.

Для камп'ютара IBM PC гульня была перапісана на мову праграмавання Turbo Pascal шаснаццацігадовым школьнікам Вадзімам Герасімавым, знаёмым Аляксея. Правы на Тэ-

трыс былі хутка выкуплены, і гульня разляцелася па свеце вялікімі тыражамі, выйшла на ўсіх магчымых платформах ад мабільных тэлефонаў да фотаапаратаў. Сам Пажытнаў працаваў у аддзеле галаваломак Microsoft амаль 10 гадоў, а цяпер жыве ў ЗША і лічыцца адной з ікон індустрыі гульняў.

## ЯКОЕ «ВЕЛІКОДНАЕ ЯЙКА» БЫЛО ПЕРШЫМ У ГІСТОРЫІ КАМП'ЮТАРНЫХ ГУЛЬНЯЎ?

«Велікоднае яйка» ў праграмаванні азначае пасланне, якое стваральнікі пакідаюць карыстальнікам недзе ў нетрах гульні ці праграмы. Першае «яйка» з'явілася ў камп'ютарнай гульні «Adventure» ў 1978 годзе. У той час кампанія Atari не пакідала ў сваіх праграмах спіса аўтараў, праграміст Уорэн Робінет вырашыў схаваць сваё імя ўнутры. Каб трапіць у «пакой» з імем распрацоўшчыка, трэба было адшукаць нябачную кропку ў адной з частак лабірынта і перанесці яе ў другі канец узроўню. Першым зрабіў гэта хлопец з Солт Лейк Сіці.

Atari даведаліся пра ўчынак Уорэна толькі тады, калі гульня ўжо выйшла і стала шырокавядомай. Аўтар у той час у гэтай кампаніі ўжо не працаваў, таму пакараць яго не маглі. Вытворцы маглі толькі замяніць картрыджы з гульнёй на новыя, але гэта дорага каштавала. Ды і ідэя тагачаснаму менеджару прыйшлася даспадобы. Гульню пакінулі з сакрэтным экранам. Больш таго, «велікодныя яйкі» сталі дадаваць у новыя гульні ўжо спецыяльна. А сама назва з'явілася па аналогіі з вядомай у краінах Еўропы і ЗША гульнёй, калі на Вялікдзень дзеці шукаюць схаваныя паўсюль яйкі і атрымліваюць за гэта падарункі.

Цяпер «велікодныя яйкі» пакідаюць не толькі ў гульнях і праграмах, але і на сайтах, у кінафільмах і г. д.



## ЧАМУ ЖОРСТКІ ДЫСК НАЗЫВАЕЦЦА ЯК ВІНТОЎКА

З лёгкай рукі інжынераў IBM, якія ў 1973 годзе стварылі першы ў свеце жорсткі дыск, ён пачаў называцца «вінчэстар». Чаму? Сярод інжынераў існавала назва «30-30», бо ён меў 30 сектараў і 30 дарожак для запісу і чытання інфармацыі.

Кенет Хотан, кіраўнік праекта, па сугуччы з абазначэннем вядомай мадэлі «30-30» амерыканскай вінтоўкі «Вінчэстар» прапанаваў так і назваць дыск. У Савецкім Саюзе назва не прыжылася і ў электроннай прамысловасці выкарыстоўвалі абрэвіятуру НЖМД — накапляльнік на жорсткіх магнітных дысках. Цяпер самая распаўсюджанная назва — жорсткі (цвёрды) дыск.

***Ягор ВАЛЯНКОЎ, праграміст***






*Вядучы рубрыкі Андрэй Палупанаў*

# Практычныя крокі

***Лепшыя заданні, выкананыя ў групе «Вконтакте»: «Бярозка/ КінаШкола», будуць разыграны ў конкурсе на бясплатнае навучанне ў сапраўднай кінашколе!***
***(Прапанова filmschool.by).***

Працяглае чытанне і запаўненне галавы інфармацыяй рэдка прыводзяць да стварэння фільмаў. Хочаш навучыцца здымаць кіно — проста пачні яго здымаць. Нашыя заняткі будуць пабудаваны па этапах, а кожны ўдзельнік мае магчымасць расказваць пра тое, як ён іх прайшоў, у групе «Вконтакте»: «Бярозка/Кіна Школа». З атрыманых фільмаў мы створым канал, які з часам набярэ вялікую колькасць прыхільнікаў. Размроіліся ўжо? Гэта выдатна! Пачнём!

Адкуль бяруцца ідэі? Адусюль. Галоўным чынам, з рэальнага жыцця, фільмаў, кніг, інтэрнэту, сноў, фантазій, мрояў

## 1 ПЕРШЫ КРОК. ІДЭЯ

Адкуль бяруцца ідэі? Адусюль. Галоўным чынам, з рэальнага жыцця, фільмаў, кніг, інтэрнэту, сноў, фантазій, мрояў. У якім выглядзе яны прыходзяць да нас? У выглядзе вобразаў. Вобраз — гэта галоўны кампанент кожнага творчага прадукта. І, безумоўна, фільма.

Як зразумець, што гэта вобраз? Вельмі проста: вобраз складаецца з малюнкаў, якія хвалююць. Калі задумацца, у вобраза з'явіцца сэнс, калі прыслухацца — гук. Хутчэй за ўсё ёсць нейкія сітуацыі, якія папярэднічалі ці сталі вынікам стварэння вобраза. Вось мы і прыйшлі да гісторыі. Як толькі з'яўляецца паслядоўнасць падзей — з'яўляецца гісторыя.

## ДРУГІ КРОК. ГІСТОРЫЯ

Вобраз адрозніваецца ад гісторыі тым, што яго элементы ўспрымаюцца на ўзроўні пачуццяў. А гісторыя патрабуе парадку, рацыянальнага мыслення. Тут павінны быць логіка і паслядоўнасць. З чаго ўсё пачалося? З кім адбываецца гісторыя? Хто яе расказвае сваімі дзеяннямі? Куды вядуць гэтыя дзеянні? Хто яму ці ёй супрацьстаіць? Чым усё канчаецца? Хай спачатку гэта будзе кароткая гісторыя. Прыйдзе час, і да доўгіх фільмаў мы таксама дойдзем.

## ТРЭЦІ КРОК. СЦЭНАРЫЙ

Гісторыя мае пачатак, сярэдзіну і канец — выдатна! Запішы яе! Што робяць персанажы? Што гавораць? Улічваючы тое, што існуюць два каналы ўплыву на гледача — зрок і слых, сцэнарый павінен складацца з апісання дзеянняў і таго, што пры гэтым пачуе глядач.

## ЧАЦВЁРТЫ КРОК. ПАДРЫХТОЎКА

Гэта самы адказны этап. І поспех фільма залежыць ад яго больш за ўсё на свеце!

Калі ёсць сцэнарый, мае сэнс перарабіць яго ў рэжысёрскі і намаляваць раскадроўку. Рэжысёрскі сцэнарый — гэта інструкцыя для рэжысёра. Нельга ж усё трымаць у галаве. Выглядае ён як табліца, дзе пазначана буйнасць кадраў, на што зрабіць акцэнт, якія эмоцыі і атмасфера патрэбны да той ці іншай сцэны. Раскадроўка — гэта комікс, паслядоўнасць малюнкаў. Зрабі яе, не палянуйся — і пытанняў на здымачнай пляцоўцы будзе значна менш.

Што далей?

✓ ***Кастынг акцёраў.*** Для першага фільма пакліч лепшага сябра або сяброўку.

✓ ***Каманда.*** Пакліч сваіх сяброў. Добра, калі яны захоплены кіно, як і ты! Хай адказваюць кожны за які-небудзь напрамак. Скажы ім, што ўсё вельмі сур'ёзна, і папрасі паставіцца да справы адпаведна.

✓ ***Тэхніка.*** Чым будзеш здымаць? На тэлефон? Добра!

✓ ***Касцюм.*** Мяркую, гэта не фэнтэзі і не гістарычны фільм. Давай пачнём з простай жыццёвай гісторыі, якая адбываецца ў суседнім двары. Тады і з касцюмам будзе прасцей.

✓ ***Рэквізіт.*** Хутчэй за ўсё табе спатрэбяцца рэчы, значныя для раскрыцця сюжэта. Дзе ты іх возьмеш?

✓ ***Лакацыі.*** Так называюцца месцы, дзе будуць праходзіць здымкі. Знайдзі іх і сфатаграфуй.

✓ ***Стварэнне КПП*** (каляндарна-пастановачны план). Таблічка выглядае як рэжысёрскі сцэнарый, толькі тут пазначаюцца важныя падзеі і час: хто калі патрэбен і на колькі, якая сцэна калі здымаецца.

✓ ***Каштарыс*** — планаванне выдаткаў. Нават калі гэта звычайны перакус і трэба адзін раз схадзіць у краму, так і пішы: «Сілкаванне здымачнай групы: 4 булачкі з карыцай, 1 літр яблычнага соку — 40 тысяч рублёў». Гэта прафесійна!

Завядзі сабе тэчку і складай туды ўсю інфармацыю пра падрыхтоўку фільма. Гэта важны дакумент, які прынясе табе шмат радасці на здымачнай пляцоўцы.

***Больш пра этапы стварэння фільма чытай у наступных выпусках «КінаШколы» ў «Бярозцы».***

# Знаёмыя незнаёмцы

Мастачка Марыя КУЛАГІНА





*Дзве чорныя коткі сядзяць на даху.*
*Адна кажа:*
*— Так сумна...*
*— Тады хадзем на вуліцу — перабягаць дарогу мінакам, — прапануе другая.*

Вітаю, дружа!

Як думаеш, ці здарылася што пасля нашай апошняй сустрэчы?

Уяві, у мяне з'явіўся прыяцель: у кабінет галоўрэда, дзе я, як памятаеш, працую па начах, панадзіўся зазіраць чорны кот! Ён прыходзіць да мяне па вузкім карнізе, зусім не турбуючыся аб небяспецы, і праседжвае тут да раніцы, жмурачыся на блікі манітора. Несумненна, ён бачыць мяне, хоць я, прывід, незаўважны для іншых. Я клічу яго Ра — па імені вярхоўнага старажытнаегіпецкага бажаства.

А ці ведаеш ты, што жыхары Старажытнага Егіпта абагаўлялі катоў, будавалі ў іх гонар храмы, а пасля смерці бальзамавалі, нібы тых фараонаў? У пірамідах жывёлам дазвалялася заходзіць туды, куды забаранялася зазіраць нават жрацам. Егіпцяне былі ўпэўнены, што каты прыйшлі з Сірыуса разам з багамі. Бог сонца Ра ў «Кнізе мёртвых» выступае як «вялікі кот». Кожную ноч, калі Ра пачынае плаванне па падземным Ніле, змей Апоп, жадаючы загубіць яго, выпівае з ракі ўсю ваду. Тады Ра ў вобразе рудога ката змагаецца з ім і адразае яму галаву!

Ды што егіпцяне! Некаторыя іншыя лічаць, што каты — прадстаўнікі пазаземнай цывілізацыі, бо валодаюць звышнатуральнымі здольнасцямі. Іх зрок пераўзыходзіць чалавечы ў шэсць разоў. Яны здольны глядзець на сонца дзякуючы ўнікальным зрэнкам, якія «працуюць» як дыяфрагма фотаапарата. У пачатку эпохі фатаграфіі кожны фатограф, які сябе паважаў, цягаў на плячах акрамя грувасткага апарата на трынозе такога ж грувасткага, укормленага ката.

Яшчэ раней кот меў гонар узвышацца на плячах чарадзеяў і чараўнікоў. Шчыра кажучы, гэта былі нялёгкія часы! У Сярэднявечча небаракам (асабліва чорным!) добра даставалася ад інквізіцыі — іх спальвалі, суцяшаючыся думкай, што знішчаюць ведзьмакоў, якія ператварыліся ў звяроў. Дарэчы, часам каты паводзяць сябе сапраўды дзіўна: у канцы лета яны збіраюцца начамі ў гурты, паважна размяшчаюцца ў круг і так сядзяць. Медытуюць?

…Ну вось, зноў да мяне прыйшоў кот! Таму з табой, дружа, развітваюся да наступнага нумара.



*Кацярына Захарэвіч*

# На адлегласці ўзросту



Аднойчы (мне было гадоў чатырнаццаць) я знайшла мамін нататнік. Маленькі, зялёненькі, закінуты ўглыб ніжняй палічкі тумбы. Ну, нататнік і нататнік. Але. Відаць, што даўно маме ўжо не патрэбны, ён чамусьці перажыў усе нашы пераезды, не згубіўся, не апынуўся сярод шматлікіх непатрэбных рэчаў, якія да новага месца звычайна не даязджаюць. Значыць, яна яго захоўвае.

У нататнік роўным почыркам студэнткі-выдатніцы былі перапісаны вершы. Ніколі не думала, што мая мама любіць вершы. Мама, урач, якога баяцца падначаленыя, абсалютна сур'ёзная жанчына, што з недаверам ставілася да маіх паэтычных намаганняў, перапісвала ў нататнік вершы, аздабляла іх выразанымі карцінкамі?

Скрозь рыфмаваныя радкі на мяне глядзела дзяўчынка. Звычайная, такая як і я ці мае сяброўкі, магчыма, крыху старэйшая (не ведаю, колькі было маме, калі яна вяла гэтыя запісы). Дзяўчынка-рамантык, летуценніца. Дзяўчынка, якая потым стала маёй мамай. Зразумела, я была ў шоку.

Мама гэта мама. Любімая і ласкавая, але часам строгая і патрабавальная. І заўсёды знаходзіцца на адлегласці розніцы ва ўзросце. Ну як можна ўявіць сябе на ейным месцы, па-за нашай сям'ёй, па-за словам «мама»?

А што я ўвогуле тады пра яе ведала? Што яна працуе з 8 раніцы да 6 вечара, што не любіць занадта салодкае, але любіць халву, што па тэлебачанні паміж серыялам і КВЗ выбірае серыял (а я ж хачу глядзець КВЗ!), што раз на месяц з суботы на нядзелю дзяжурыць уноч, і што я ўсё дзяцінства не любіла гэтую ноч без мамы. Але. Пра што яна так цяжка ўздыхае часам? Пра што думае ноччу, калі не можа заснуць? Што хвалюе яе, што прымусіць заплакаць, што выкліча ўсмешку?

Нататнік я перахавала бліжэй да сябе. Часам, калі мы спрачаемся, крыўдзімся адна на адну, я перагортваю яго старонкі, перачытваю вершы, напісаныя рукой старannай студэнткі-выдатніцы, і ўспамінаю, што мая мама — такая ж дзяўчынка-летуценніца, як і я.

Колькі я яшчэ не ведаю пра чалавека, які ведае пра мяне больш, чым я сама?

# Паміж школай і будучыняй

*Бацькам і настаўнікам прачытаць АБАВЯЗКОВА*



*Ганна Варонка, 11 клас, гімназія № 1, Свіслач (Гродзенская вобласць)*

Нейяк зусім нязвыкла вучыцца ў выпускным класе. Здаецца, не так даўно я спяшалася на свой першы ўрок з букетам гладыёлусаў у руках. І сёння помню, як было страшна, як хвалявалася, упершыню ўбачыўшы школу, аднакласнікаў, настаўнікаў. Не ведаю, калі я паспела пасталець. Але ў гэтым годзе на лінейку ішла ўжо не з белымі банцікамі ў валасах, а ў туфлях на высокіх абцасах. Маё сэрца перапаўняла столькі розных эмоцый: радасць ад сустрэчы з сябрамі і педагогамі, прыемнае адчуванне «дарослaсці», жаданне вучыцца і... трывога за будучыню, цяжар адказнасці.

Так, шмат чаму нас вучыць школа. У дзяцінстве я гэтага не разумела. Не любіла рана ўставаць (ды і цяпер не люблю), выконваць хатнія заданні замест таго, каб паглядзець цікавы мульцік. Я шчыра абуралася, што ўрокі доўгія, а перапынкі кароткія. У школе праходзіць большая частка нашага дзяцінства. І часам мы зусім не разумеем (ці не жадаем разумець) таго, што гавораць дарослыя. «Ну навошта мне гэтая школа? Я хачу быць прынцэсай, а прынцэсам не патрэбны ні табліца памнажэння, ні буквар», — так думала ў першым класе… Трэба было пасталець, каб зразумець, што жыццё — гэта не казка. Школа вучыць галоўнаму — без працы нічога не дасягнеш. А яшчэ таму, што ўсё залежыць ад нашага выбару. Школа — гэта маленькая мадэль грамадства, са сваёй іерархіяй, палітыкай і абавязкамі. Так, школа — гэта не казка. Але колькі цудоўных імгненняў, колькі смешных падзей і незабыўных прыгод я там перажыла! Здаецца, я буду помніць заўсёды, як з сябрамі збягалі з урокаў, хадзілі ў паходы і ездзілі на турзлёты. Пасядзелкі каля кастра і песні пад гітару, шум і летаніна на перапынках, прагнае жаданне пазнаць новае на ўроках, гонар за добрую адзнаку…

Я заўсёды з захапленнем глядзела на выпускнікоў. Яны мне здаваліся такімі прыгожымі, дарослымі, упэўненымі. І толькі цяпер я разумею, наколькі маё меркаванне было памылковым. Далёка ўнутры, дзе ніхто не бачыць, у кожнага выпускніка схаваны перажыванні. Мы хвалюемся, як пройдуць іспыты і ЦТ, як будзем жыць у чужым горадзе… А што калі не паступім ва ўніверсітэт? Яшчэ гэты заўсёдны страх расчараваць бацькоў, якія так у нас вераць, столькі прыклалі намаганняў, каб даць нам лепшае. Мы жартуем і смяёмся, але нам неверагодна хочацца, каб хтосьці сказаў нам, што ўсё будзе добра.

Я не заўсёды шанавала школу. Але ўжо з жалем разумею, што буду сумаваць. І па настаўніках, і па сябрах, і па арэлях у двары, і па аладках у сталоўцы, нават па хлопцу-хулігану з суседняй парты, які так часта дзейнічае мне на нервы. Я, безумоўна, буду сумаваць па школе — маім незваротным дзяцінстве.


*Яна Мусвідас*

# Казачнае жыццё Наталлі Ігаценка

Сярод маіх знаёмых сем'яў шмат тых, дзе растуць два сыны. Ды што казаць, калі ў мяне самой — два малодшыя браты. Адносіны двух хлопчыкаў у сям'і нярэдка складаныя, але назіраць за імі заўсёды цікава.

Цэнтральнымі героямі большасці твораў Наталлі Ігнаценка з'яўляюцца родныя браты Саша і Валодзя. Хлопчыкі бываюць празмерна актыўнымі, аднак выклікаюць сімпатыю чытача з першых старонак. Але як аўтарцы ўдалося стварыць гэтыя паказальныя вобразы? Думаю, справа ў тым, што Наталля сама з'яўляецца маці двух хлопчыкаў, якія і сталі прататыпамі герояў многіх гісторый, напісаных на аснове рэальных падзей.

Усе свае творы Наталля Ігнаценка выкладае ў вершаванай форме — так яны лягчэй успрымаюцца юнымі чытачамі. У гэтых дзіцячых, здавалася б, тэкстах закранаюцца сапраўдныя «дарослыя» праблемы: тут прысутнічаюць і рознабаковыя міжасабовыя канфлікты, і каханне.

У кнізе «Как два брата этикет изучали», выдадзенай пазалетась, аўтарка ўздымае пытанне маральнага выбару сучасных дзяцей. На вачах чытача браты-свавольнікі ператвараюцца ў джэнтльменаў, асабістым прыкладам спрыяючы пераменам у характарах сяброў.

Ігнаценка часта супрацьпастаўляе герояў адно аднаму. Напрыклад, у кнізе «Как два брата спортсменами стали» хлопчыкі аказваюцца па розныя бакі лядовай арэны. Саша выбірае жорсткі і суровы хакей, а Валодзя — вытанчанае фігурнае катанне. На глебе рознасці выбару паміж братамі ўзнікае канфлікт. Але, як і заўсёды ў добрых гісторыях, у выніку перамагаюць сяброўства і справядлівасць. Названая кніга была выдадзена летась, перад Чэмпіянатам свету па хакеі, калі вырашэнне спрэчак на лёдзе было актуальнай тэмай.

Асаблівай увагі ў творчасці Наталлі Ігнаценка заслугоўваюць яе казкі. Адметнай рысай некаторых з іх з'яўляецца запазычанне персанажаў. Так, усім вядомая Баба Яга апынулася на суседніх старонках са Снежнай Каралевай і Дзедам Марозам. Ды каму ж з нас не было б цікава, што здарылася з персанажамі пасля знаёмых з дзяцінства гісторый?

Першапачаткова чытаць дзіцячыя творы Наталлі Ігнаценка я планавала разам са сваімі братамі, але калі яны абодва заснулі, не змагла спыніць цікавае чытанне. У жыцці заўсёды павінна заставацца месца для казкі: шчырай, добрай і наіўнай, не мае розніцы, адзінаццаць табе гадоў, сямнаццаць ці трыццаць.

# «Так, мы ўмелі дапячы настаўнікам, але хто сказаў, што ў нас адсутнічалі чалавечыя якасці?»



*Мастачка Алёна МАКАВЕЦКАЯ*

***Падслухваць хоць і нядобра, але бывае вельмі цікава. Тым больш, калі настаўнікі расказваюць пра свае школьныя гады. Успамінамі дзяліліся ў школе № 210 Мінска. Вольга Аляксандраўна Царковіч, якая выкладае біялогію, Ірына Паўлаўна Макарчук і Валянціна Пятроўна Васкоўская, якія адказваюць за рускую мову і літаратуру, Таццяна Юр'еўна Гаўрыловіч, гуру гісторыі. Размову ў настаўніцкай занатоўвалі, як гэта часта бывае, інкогніта.***

***В. А.:*** — Слухайце, я з такім задавальненнем успамінаю свае школьныя гады! Вось і сёння, ішла на працу — і нагнала мяне настальгія. І так добра крочылася з думкамі аб мінулым, што ажно цёпла стала. А галоўнае, што я разумею, — мяне ў школе нічога не раздражняла.

***В. П.:*** — У мяне таксама пра школу ўспаміны цёплыя. Цяпер вось думаю: можа, таму і захацела стаць настаўнікам, што добра мне было?

***І. П.:*** — Мне падаецца, што немагчыма пражыць школьныя гады і не пахуліганіць. У нас было ўсё: збягалі з заняткаў, аб'яўлялі «байкоты» сваім жа аднакласнікам, падкладвалі кнопкі, калектыўна «зрывалі» заняткі. Карацей, мінімальны набор хулігана ў нашым класе прысутнічаў заўсёды.

***В. А.:*** — Я толькі заняткі прагульвала. Праўда, не надта часта. І для мяне характэрнай была лёгкая безадказнасць: хатняе заданне ніколі не выконвала. Але мне хапала ведаў, каб гэтага ніхто не заўважаў.

***Т. Ю.:*** — Мне таксама вучоба давалася проста па ўсіх прадметах. Пісьмовыя звычайна рабіла дома, а пачытаць, напрыклад, гісторыю, магла і на перапынку. Я вучылася ў эксперыментальнай школе, таму ўвогуле нічога кансерватыўнага на маёй памяці няма, усё дынамічна змянялася: уводзілі свабодны стыль адзення, пераходзілі на пяцідзёнку… Нават курс псіхалогіі ўвялі.

***В. П.:*** — Мы забаўляліся на пазакласных мерапрыемствах: арганізоўвалі вечарынкі і дыскатэкі, ладзілі розныя конкурсы. Хуліганіла? Не! Я любіла пасмяяцца з кагосьці першага красавіка.

***І. П.:*** — А ў нашай школе, на жаль, было мала гулянняў. Запомніўся толькі адзін навагодні спектакль з касцюмамі, якія прыдумлялі і рабілі самі. А потым пелі і танчылі!

***В. А.:*** — Я часцей за ўсё згадваю вучобу ў 6—8 класах. Мы та-а-акія тэматычныя пасядзелкі з конкурсамі і «салодкім сталом» рабілі!

***І. П.:*** — А я памятаю, як у восьмым класе ў маладой настаўніцы зламалася крэсла, і яна звалілася прама на ўроку. Першае, што запытала: «Чаго не смяецеся?» Так крыўдна было, што нас лічаць чэрствымі і злымі. Так, мы ўмелі дапячы настаўнікам, але хто сказаў, што ў нас адсутнічалі чалавечыя якасці?

***Т. Ю.:*** — Не, гісторый, якія звязаны з крыўдай ці сорамам, я не ўспомню. Яскравым было ўсё маё школьнае жыццё. Займалася танцамі, удзельнічала ў спартакіядах, прагульвала нецікавыя заняткі… Школьныя святы праводзіліся вельмі актыўна, тады мы дыхалі піянерскім паветрам. І кожны, безумоўна, стараўся вылучыцца.

***В. П.:*** — Мяне ж у школе вельмі раздражняла, калі, не папярэдзіўшы, давалі самастойныя работы. Я, стаўшы настаўніцай, ніколі так не раблю, заўжды загадзя пра ўсё кажу вучням. У іх павінен быць час на падрыхтоўку.

***І. П.:*** — У адрозненне ад сучасных школьнікаў, мы з аднакласнікамі збіраліся ў каго-небудзь, каб рашаць складаныя задачкі. Разумею, што гэта сёння смешна гучыць, але так было.

***В. П.:*** — Пра смешнае… Аднойчы на ўроку матэматыкі настаўніца дала задачу і спытала: «Якія будуць прапановы?», маючы на ўвазе варыянты рашэння. Ніхто не мог знайсці адказ, а адзін хлопчык сказаў: «Ёсць прапанова асушыць балоты на Палессі». Тады было смешна. Сёння ёсць пра што падумаць.

# І больш ніколі не страціць крылаў

*Асабістае*

З цягам часу ў чалавека шмат што змяняецца: густы, погляды, жаданні. І я не выключэнне.

З чаго пачалося? Аднойчы, дакладна не памятаю калі, пэўна, у класе дзясятым, вясною, я з аднакласнікамі паехала ў Мінск на экскурсію, і напрыканцы дня мы глядзелі спектакль у тэатры. Дзве гадзіны седзячы моўчкі, з трохі адкрытым ротам і вялікімі вачыма. За шаснаццаць гадоў я першы раз убачыла штосьці лепшае за кіно. Мы вярталіся дадому позна, але ніхто не спаў, былі размовы пра акцёраў, музыку, свет, дэкарацыі, нават пра жанчыну, якая сядзела каля мяне і пасля таго, як на сцэне стрэліў пісталет, падскочыла са словамі: «Толькі разбудзілі!» Гэта было іншым светам, але такім, які, у адрозненне ад кніг ці кіно, можна «памацаць» і «панюхаць». Гэта як машына часу. Мы трапілі на некалькі стагоддзяў назад. І доўга яшчэ хадзілі ўражаныя. І не раз збіраліся зноў наведацца. Але не атрымалася.

Мне ўжо сямнаццаць, а ў тэатры я была толькі раз. Можа, час, можа, справы, а можа, і я сама — не ведаю, хто тут вінаваты.

Дык вось, калі мінула трохі часу і ўражанні, якія трапляюць пад азначэнні «ваў» ці «клас», скончыліся, тэатр не перастаў мне падабацца. Раней я думала, што здымацца ў кіно цяжка, што трэба ўмець паказваць сум, калі жадаеш смяяцца, ці зразумець таго героя, якога іграеш, ды так, каб людзі таксама зразумелі яго праз цябе. Цяжка. Але, як і многія ў дзяцінстве, я марыла здымацца ў кіно. Цяпер жа… Не, трохі раней, яшчэ калі мне было шаснаццаць, я пачала марыць пра тэатр. А іграць жа ў тэатры яшчэ цяжэй, таму што не будзе побач камеры, якую можна будзе ўключыць не адзін раз. Толькі вочы, якія глядзяць і ні на хвіліну не заплюшчваюцца (хоць і бываюць выключэнні). Але марыла я не пра славу, як дзіцё, а пра тое, што мяне пачуюць. Так! Сцэна — штосьці, да чаго прыходзяць, каб слухаць, калі штосьці шукаюць. Мне ёсць што сказаць, я так думала. Вось і прыглядалася да сябе як да таго, хто мае талент звяртацца да людзей.

> Канешне, я хвалявалася, і ў жываце, як звар'яцелыя, лёталі матылькі. Калі я чагосьці баюся, то яны там дурэюць

Адказнасць за ўсё, што здараецца потым, ляжыць на лёсе. Лета было вельмі хуткім і ўжо прамінула, пачалася школа, адзінаццаты клас. Гэта лёс пазнаёміў мяне з чалавекам, мужчынам. Ён — інвалід, прыязджаў да нас у школу, каб расказаць пра тое, як мы можам дапамагчы, калі сустрэнемся на вуліцы з такімі, як ён. Наша сяброўства працягнулася па-за школай. Я ведала, што ён дзесьці там займаецца тэатрам, але ніколі не бачыла, як гэта адбываецца, вось і не цікавілася. Аднойчы ён паскардзіўся, што больш не можа іграць у тэатры, бо няма дзяўчыны-партнёра…

І тут мне была зроблена прапанова. Я пасмяялася, таму што не жадала выглядаць смешна. Да таго часу я ўжо кінула марыць пра тэатр. Пачала адмаўляцца, жартаваць і нават крыўдзіцца, але ў душы толькі і чакала, што мяне завалакуць туды сілком. Пасля некалькіх дзён угавораннаў я пагадзілася, але не верыла, што мяне «адбяруць». Прыйшоў дзень пробаў. Канешне, я хвалявалася, і ў жываце, як звар'яцелыя, лёталі матылькі. Калі я чагосьці баюся, то яны там дурэюць. Трэба было прыйсці вечарам. Так я і зрабіла. Адчыніла дзверы, зайшла і ўбачыла мужчыну і дзяўчыну, якія сядзелі і пра нешта размаўлялі. Быў яшчэ хтосьці, але я не памятаю хто, мяне гэта не цікавіла. Мяне паклікалі, я падышла, пазнаёміліся. Дзяўчына была актрысай, другі чалавек — рэжысёрам. Трохі паразмаўлялі пра тое, што такое, увогуле, тэатр. Пасля мне прапанавалі прачытаць верш. Як на тое, у мяне быў Ясенін, якога трэба было вывучыць на заўтра. Я прачытала верш з кнігі. Калі падымала галаву, адчувала, як чырванее твар. На мой погляд, я прачытала ніяк. Так мне і адказалі: «Ты будзеш дзяўчынай празапас». Добра, але трохі крыўдна. Лёс ужо загуляўся, але спыняцца ён не хацеў. На наступную рэпетыцыю я прыйшла адна, і пасля таксама: другая дзяўчына больш не паказвалася. Пачалася мая праца акцёра ў тэтры. Я была адной з галоўных. І зусім не важна, што нас толькі двое. Вучыць словы было справай простай. Самай вялікай цяжкасцю стала спачатку тое, што мы абодва на інвалідных калясках. Але і да гэтага прызвычайваешся. Я даходзіла да сцэны, сядала ў каляску і каталася, пакуль рэжысёр не скажа: «Добра. Заўтра працягваем».

Так ішоў час. Вучылі словы, пасля падбіралі рухі. На калясцы не разгуляешся. І непрыемна, калі цябе, як бязногага, возяць. Ці я казала вам, што не ўмею танцаваць? У спектаклі гэта было патрэбна. І не толькі для танца, якім завяршаецца першае дзеянне, але і для таго, каб рухацца прыхожа.

Самае дрэннае тое, што ты спрабуеш быць тым чалавекам, якога павінен іграць, а людзі, якія глядзяць на цябе, бачаць яго зусім па-іншаму. І твае пачуцці могуць зусім нічога ім не сказаць. Ты быццам на некалькі гадзін робішся іншым. Але ад сябе самога нікуды не дзенешся, таму ўнутры ідзе барацьба паміж табой і тваім героем. Калі гавораць: «Кахай!», спрабуеш кахаць, як дарослы, але ты дагэтуль любіў толькі маці і рыбку. Кажуць: «Пажадай памерці! У цябе няма ног, ты больш не зможаш танцаваць!», а ты нават ніколі і не спрабаваў танцаваць, і адчуваеш дотыкі да сваіх ног, ды і жыць яшчэ хочацца. Кажуць: «Напоўніся нянавісцю, ён табе перашкаджае!»; кажуць, кажуць. І так унутры ўжо не адно пражытае жыццё, а тут яшчэ вы, рэжысёры.

Я бачу і адчуваю ўсё па-свойму. Не, не тое каб я іншая, але тое, што я называю каханнем, ці тое, як я паказваю жаданне памерці… Можа, я дрэнны акцёр, можа, не маю што сказаць людзям, але я расчаравалася: я не жыла тэатрам, а толькі ў яго гуляла, па правілах рэжысёраў. А можа, гэта проста дзіцячая крыўда? Ці бунт майго часу? Цяжка верыць у штосьці адно. Так, я разумею, што зусім не ўмею ні рухацца прыгожа, ні гаварыць упэўнена. Але я верыла, што змагу паказаць бязногую самагубку, і верыла, што пакахаць змагу, і ўстаць таксама, і ўзляцець змагу, і больш ніколі не страціць крылаў, хіба толькі калі памру, і пранесці каханне праз усё жыццё, і працаваць дзеля каханага — я ўсё змагу. Я верыла. Астатнія — не. Цяжка гэта.

Але якой бы ні была крыўда, я не перастану любіць тэатр. Чаму? Таму што ўжо не забыць мне свабоду, якую адкрывае сцэна. Свабода ўсё ж ёсць: пакуль

працягваецца дзеянне на сцэне, усе глядзяць на цябе і чакаюць чагосьці, нават калі большая частка пастаноўкі была незразумелая і дрэнная. Я, гуляючы, жыла непрафесійным тэатрам. Мяне не маглі выгнаць, таму можна было разгуляцца. Але мяне не навучылі, як гэта рабіць.

Усё ж тэатр — гэта не частка звыклага жыцця. Мацюкі і пахабныя словы — забаронены. Вось і давялося культурна ненавідзець і ветліва адмаўляць. Можа, хтосьці не разумее мяне, дык прабачце. Тэатр не сродак для забавы, а пошук сябе. Я яшчэ маю шанец штосьці змяніць: рэпетыцыі працягваюцца. Але мне цікавей слухаць і глядзець, пакуль яшчэ з адкрытым ротам і шырока расплюшчанымі вачыма.




Подпіс рэдактара

***Вераніка ВЕЛЬБ,***
***выпускніца школы № 8, Ліда***

# Экскурс у мінулае



Пакуль нехта ные ў «Твітары» пра змарнаваны чэрвень, я падводжу вынікі. З аднаго боку, паспяхова здадзена сесія, з другога — розныя падзеі, людзі і эмоцыі, матч Беларусь — Іспанія на Барысаў-Арэне і Вільнюс у канцы мая. Сапраўды, лета пачалося для мяне яшчэ ў маі. Трыццатага я сяджу ў цягніку і накіроўваюся ў Літву. Паездка ў рамках заняткаў Беларускай асацыяцыі журналістаў.

Акрамя курсаў спартыўнай журналістыкі, перада мной стаяла яшчэ адна асабістая мэта. *Абавязкова* знайсці час і пабываць на Лукішскай плошчы. Чым яна



мяне так прыцягвала, мабыць, здагадаюцца толькі зусім «апантаныя» фанаты гісторыі ці пэўнай гістарычнай тэмы. Я маю на ўвазе паўстанне 1863—1864 гадоў. 22 сакавіка 1864 года на гэтай самай Лукішскай плошчы адбылося пакаранне кіраўнікоў паўстання. У тым ліку — Кастуся Каліноўскага. Гістарычнае месца. Трагічнае. І я хачу расказаць вам менавіта пра яго.

Пасля заняткаў бяру фотаапарат і выпраўляюся ў шлях, мімаходам фатаграфую пейзажы горада. Хутка дабіраюся да месца прызначэння. Над вялікай Лукішскай плошчай грае нейкая прыгожая мелодыя. А гэта што? Жыта? На плошчы сапраўды калосіцца жыта… і «спявае».

Пастаяўшы некалькі хвілін каля гэтага цуду, агледзелася вакол: куды ісці? Дзе той помнік у выглядзе крыжа з лічбамі «1863», што я бачыла на фотаздымку ў інтэрнэце? Вырашыла абысці плошчу па перыметры і паглядзець. Выпадкова выбрала адну з дарожак і, прайшоўшы яе, убачыла перад сабой тое, што шукала. У зацішным кутку, пад дрэвамі, каля дарогі, дзе амаль зусім няма людзей, стаіць той самы крыж. Чаму я выбрала менавіта той шлях? Я не ведаю. Я нібы адчувала, куды ісці.

Кажуць, што, калі ўяўляеш сабе нешта, потым гэта здараецца не так, як ты сабе «маляваў». А ў мяне часам бываюць моманты, якія ў жыцці ідуць кропля ў кроплю як у думках. Як у думках, дабіраешся ў Вільнюс, знаходзіш патрэбную плошчу, пэўнае месца, і сядзіш каля яго на каленях (якая табе справа да таго, што нядаўна прайшоў дождж і джынсы цяпер брудныя?), і можаш дакрануцца да той пліты. Усё настолькі падобна да думак і ўяўленняў, што сумняваешся, ці сапраўды гэтыя чаканні сталі рэальнымі. І пачынаеш задаваць сабе пытанне, ці паверыш ты сам праз некалькі гадоў, што так яно насамрэч было. Ужо збіраюся ісці, раблю пару крокаў… зноў разварочваюся і вяртаюся да крыжа. Не, так праз некалькі гадоў і сапраўды не паверу, што ўжо была тут. Трэба яшчэ пастаяць. Дакладней усвядоміць.

Як я дабіралася назад да Дома правоў чалавека, дзе спынілася наша група, можна расказаць асобна. Я дакладна прагледзела шлях да Лукішскай плошчы па карце, але пра шлях назад загадзя не паклапацілася. Мне пашанцавала злавіць вай-фай на вуліцы каля ўжо зачыненага кафэ, каб паглядзець у інтэрнэце маршруты аўтобусаў, якія ў Вільнюсе даволі рэдка ходзяць. Знайшоўшы прыпынак, нейкі час чакала транспарт, калі да мяне падышлі дзве дзяўчыны прыкладна майго ўзросту і нешта запыталі. Я затармазіла — тады яны перайшлі на англійскую мову. Шчыра кажучы, я дрэнна ведаю англійскую, а калі ў мяне на ёй нешта пытаюцца, я магу зразумець, што мне сказалі, але адказ адразу сфармуляваць не атрымліваецца. Так і тут, на пытанне: «Ці даўно вы чакаеце?» мне, як заўсёды, трэба было адказаць нешта сярэдняе, але толькі потым здагадалася, як можна было гэта перакласці. Дзяўчына:

— Русский?

— О, да, — здзіўляюся я.

Мы з ёй разгаварыліся: «А вы откуда? А как вам Литва? А почему здесь?»
— Откуда вы так хорошо знаете русский? — пацікавілася я.
— У меня мама — русская.

Потым дзяўчыны паехалі, а я працягвала чакаць. Аўтобус пад нумарам 88, які мне і быў патрэбны, аказаўся больш падобным да маршруткі, чым да аўтобуса, мяне гэта неяк зблытала, і я паспрабавала высветліць у вадзіцеля, куды гэты нумар 88 накіроўваецца. Яго адцягнулі нейкія мінакі, да таго ж ён не ведаў патрэбнай мне вуліцы, і я ўжо не спадзявалася хоць нешта ў яго даведацца. Але, нешта адказаўшы тым мінакам і пачакаўшы, калі яны пройдуць, ён паклікаў мяне:
— Так куда вам надо?

Я паспрабавала прачытаць з тэлефона назву прыпынку, да якога мне патрэбна было даехаць, і вадзіцель пацвердзіў, што такі ёсць у яго маршруце. У салоне аўтобуса нікога не было, і вадзіцель, як і тая дзяўчына, пачаў размаўляць са мной, сказаў, што быў калісьці ў Мінску і ўзгадаў «дурныя грошы» з мноствам нулёў.

Падзякаваўшы вадзіцелю, я выйшла на ўжо знаёмай вуліцы.

На наступны дзень пасля заняткаў заставалася яшчэ шмат часу да адпраўкі цягніка, і гуляць мы пайшлі ўсе разам. Накіраваліся да вежы Гедыміна, з якой адкрываецца насамрэч цудоўная панарама на горад.

Ведаеце, я не разумею тых людзей, якія займаюць упартую пазіцыю: «Літва — гэта ўжо Еўропа, а ў Еўропе лепш, чым у нас». Я ўвогуле злавіла сябе на думцы, што я ніколі б не змагла параўнаць Мінск і Вільнюс. Я не магу сказаць, дзе лепш, дзе горш. Я не магу параўноўваць Вільнюс, у якім захавалася такое мноства старых прыгожых будынкаў, якім ужо колькі стагодзяў, з сучасным Мінскам, гістарычная частка якога прадстаўлена некалькімі прадмесцямі. Мінск, зруйнаваны падчас вайны і адбудаваны нанова, ніколі не будзе падобны да гарадоў з вялікім гістарычным цэнтрам. Але ці робіць гэта яго горшым?



Я вельмі люблю вандраваць, наведваць іншыя краіны і гарады. Аднак, калі ў мяне спытаюць, ці хацела б я жыць у Вільнюсе, я адкажу, што мне куды больш звыкла і зручна знаходзіцца ў маім горадзе, у якім аўтобусы ходзяць праз кожныя 15 хвілін, ёсць дзве лініі метро, а крамы зачыняюцца ў 22 гадзіны, а не ў 15. Але гэта, канешне, абагульненні.

Дык які ён, горад Вільнюс? Прыгожы. Добры. Так, ён вельмі добры. Але яшчэ ён — гістарычны. Перш за ўсё Вільнюс для мяне — гэта былая сталіца Вялікага Княства Літоўскага, гэта частка і маёй гісторыі таксама. Экскурс не ў Еўропу — экскурс у мінулае. І толькі добрыя ўспаміны.




Подпіс рэдактара

***Алена МАРЦІНОВІЧ,***
***студэнтка 2 курса***
***Інстытута***
***журналістыкі БДУ***

# Рэпартаж з мокрай лаўкі

Увогуле, я не збіралася рабіць нічога падобнага. Усё атрымалася выпадкова. Гэтая восень выдалася не вельмі прыемнай. І гэты кастрычніцкі вечар мала чым адрозніваўся ад астатніх: гэткі ж сыры, цёмны. Крапаў дождж, вецер зрываў з дрэў цяжкае лісце і пляскаў ім па асфальце. Гук вельмі нагадваў гук аплявухі…

Я ўладкавалася пад казырком пад'езда на лаўцы. Не лепшы варыянт — месца аказалася сырым і халодным. Але ж не стаяць. Чакала сяброўку. Ад няма чаго рабіць круціла галавой у розныя бакі. Супермаркет бліскаў вітрынамі. Далёкія святлафоры міргалі амаль што навагодняй ілюмінацыяй. Вокны школьнага спартыўнага зала свяціліся за сцяной голых дрэў. Я ўздыхнула: замест таго, каб сядзець і лыпаць вачыма, магла б згуляць у валейбол ці настольны тэніс. Або ў любімую камп'ютарную гульню. Або спячы да вяртання мамы нешта смачнае…

Але сяброўства накладае на нас пэўныя абавязкі. Ды і паветра… м-м-м… такое свежае. І восень, у прынцыпе, я люблю. Мо таму, што давялося нарадзіцца ў кастрычніку, мо з-за яе марнатраўнай раскошы. Хаця ў прыцемку ёю асабліва не налюбуешся.

Побач пачулася крактанне. Я азірнулася: на край лаўкі падсаджвалася бабуля ў старым плашчы.

— Прывітанне, бабуля.

— Будзь здарова, унучачка.

— Прастыць не баіцёся? Холадна сёння. І дождж.

— Ды я ненадоўга. Раней то ў бібліятэку заскочу, то ў парку пагуляю. Цяпер хаця б вакол дома два кругі адолець. Мне б перад сном паветра глынуць ды ногі размяць, бо інакш доўга не спіцца. Ды і моц ужо не тая — тры крокі прайду і стамляюся. Даводзіцца палову дарогі па лаўках адседжвацца. Нічога не зробіш — старасць.

Старая паскардзілася на дрэнны зрок, успомніла пра пакінуты на пліце чайнік і сышла. А я зразумела, чым займуся да прыходу сяброўкі — зраблю рэпартаж! Прама тут! На гэтай мокрай лаўцы! Пра што? Ды пра яе ж. Не пройдзе і хвіліны, як побач са мной прысядзе яе новы часовы насельнік. Час пайшоў…

— Дазволіце?

Не прайшло і трох хвілін.

— Канешне.

Прадстаўнічага выгляду мужчына ў стыльным паліто і чорнай шляпе разгарнуў газету. Уздыхнуў. І згарнуў.

— Гуляць, Лорд!

Вялізны шэры дог закружляў па двары, прынюхваючыся да кожнай купінкі.

— Летам хоць газету пачытаць можна, а цяпер увечары — хоць вока выкалі. Невясёлая атрымліваецца прагулка. Што зробіш, часам даводзіцца саступаць, — патлумачыў мужчына сваё вымушанае гультайства. — Мы ўвесь дзень на працы,

Лорд сумуе. Чакае. Церпіць. Прыйдзеш, а ён як гляне на цябе. Глыбока. З дакорам. Так, што сорамна робіцца. Ну што ж ты за гаспадар такі? Вось, кампенсую недахоп увагі. Гадзін да дзесяці гуляем. Тут ужо Лорд «музыку замаўляе». І не паспрачаешся. Зараз вывучым змены на аслупаванай тэрыторыі. І пойдзем казытаць нервы іншым сабакам. А там і да набярэжнай недалёка. Трэба дварнякоў праведаць. Абмяняцца навінамі. Традыцыі ў сабак таксама ёсць.

Сабака ціха гаўкнуў і патрухаў у падваротню. Мужчына галантна пакланіўся і паспяшаўся за ім. А побач ужо ўсаджвалася зграйка дзяўчынак.

— Не холадна? — звяртаюся да іх.

— Трошкі. Восень — гэта не лета.

— Вы тут надоўга?

Дзяўчынкі паціскаюць плячыма:

— Як атрымаецца. Мо на гадзіну, а мо і на дзве.

Дзве гадзіны! Звар'яцець. Ды і прастыць лёгка.

— А чым займацца думаеце?

— Ды так. Можна сказаць, што нічым. Абмяняемся навінамі (я ўспомніла Лорда), планы на заўтра абмяркуем. Ды ці мала…

Лорд сумуе. Чакае. Церпіць. Прыйдзеш, а ён як гляне на цябе. Глыбока. З дакорам

Самая малая адмахнулася ад мяне рукой з парасонам. Дзяўчынкі схіліліся адна да адной і пачалі балбатаць. Цяпер яны не звярталі на мяне ніякай увагі. Ды мне і не трэба было. Дзяўчынкі гэтыя праседжвалі на нашай лаўцы кожны вечар. За гэты час можна было абгаварыць усіх навучэнцаў школы. І не адзін раз. А ёсць жа яшчэ планы. Хоць, якія планы, калі кожны вечар яны прыходзяць на гэтае месца. Упэўнена, што і размовы іх мала чым адрозніваюцца адна ад адной.

З боку суседняга пад'езда пачуўся смех. Я азірнулася: лаўку акупіравала група падлеткаў. Хлопцы гучна абмяркоўвалі некага з прыяцеляў. У цемры адзначыліся чырвоныя вочкі цыгарэт. Можна было б і іх спытаць пра прычыну працяглай пасадкі. Хаця навошта? Адказ атрымаўся б падобным да рэха.

Я паглядзела на школу. Акно спартыўнага зала прывабна свяцілася ў цемры. Там цёпла, светла і цікава. За школай — цэнтр творчасці. Там гурткі да дзевяці гадзін вечара працуюць. Тэатральны. Электратэхнічны. Камп'ютарны. Выяўленчага мастацтва. Сучасных танцаў. І бібліятэка ад нас недалёка.

Мой мабільнік прайграў знаёмую мелодыю. СМС. Ад Дыяны. Так і ёсць: «Не прыйду». Столькі часу згубіла. Ці не згубіла? Да дзевяці яшчэ амаль гадзіна. Можна паспець на апошнюю гульню. Толькі форму захапіць. І яшчэ… хацелася знайсці патрэбныя словы і патлумачыць гэтым дзяўчынкам і хлопчыкам, што рассыпаць гарошыны жыцця па мокрых лаўках справа няўдзячная. Не так ужо і шмат у нас гэтых гарошын. Хоцелася б кожную ўжыць з карысцю.

Выбар за вамі, сябры!




Подпіс рэдактара

______________

***Ліза СЦЯЦКО,***
***11 клас, СШ № 12, Гродна***

***У рубрыку «Школа журналістыкі» прымаюцца інтэрв'ю з дырэктарамі школ, рэпартажы з урокаў фізікі, артыкулы пра школьныя сталоўкі, нарысы пра «батанікаў»... Рознае. Самае рознае.***

# Галоўны герой для малодшых

***Напісаць тэкст самастойна бывае даволі складана, але што рабіць, калі прага да пісьма і творчасці патрабуе выйсця? Спрабаваць! Прапануем стварыць гісторыю для малодшых брата або сястры. Рабіць штосьці для родных заўжды прыемна.***

Часцей за ўсё чытача хвалюе асоба. Праз яе мы ўспрымаем свет, створаны ў апавяданні, або пазнаём прастору, у якой існуем штодзень. Таму і мае сэнс разважанне над пытаннем, якім будзе герой тваёй гісторыі. У цябе ёсць козыр — ты добра ведаеш сваю аўдыторыю (ты ж ствараеш тэкст для малодшых брата або сястры!). Таму ўспамінай: што любіць, з чым гуляе, пра што любіць слухаць або чытаць. Персанажам можа зрабіцца нават камп'ютарны вірус, як у Анатоля Бутэвіча ў кнізе «Прыгоды віруса Шкодзі». Толькі давядзецца тое, што ты выбраў, ажывіць. Не, чароўная палачка не спатрэбіцца. Прыдумай, які характар будзе мець твой герой. Часцей за ўсё галоўныя героі — станоўчыя. Але чаму б табе не зрабіць свайго героя адмоўным? З ім могуць адбыцца метамарфозы — ён усвядоміць свае дрэнныя справы. А можа, так і застанецца са сваім стаўленнем да жыцця? Гэта ўжо будзе залежаць ад таго, як ты выбудуеш сюжэт.

Цікавы, але даволі складаны падыход да стварэння персанажа — прыдумаць яго такім, каб ён не быў падобным ні да якога іншага. Ты бачыў калі-небудзь Мумі-Троляў? А яны паспрыялі сусветнай вядомасці Тувэ Янсан. Пісьменніца іх стварыла, а яны нават пасля яе смерці працуюць на яе імя. Ёсць прыклад непаўторнага і ў беларускай літпрасторы — Мамурыкі Раісы Баравіковай (кніга «Казачныя аповесці пра міжпланетнага Пажарніка і іншых мамурыкаў»). Касмічных персанажаў не сустрэнеш на вуліцы, але пра іх магчыма даведацца, прачытаўшы кнігу. А вядомыя ўсім Смурфікі? Сінія чалавечкі маленькіх памераў з вялікімі сэрцамі. Можа, і ў цябе ўжо ёсць ідэя, якім павін быць той, хто падобны толькі да сябе?

Цікавай можа атрымацца гісторыя, у якой задзейнічаны міфалагічныя істоты. Тым больш, што ў цябе ёсць магчымасць звярнуцца да легенд або паданняў — знайсці цікавую інфармацыю, на падставе якой напісаць тэкст. Выкарыстаць толькі імёны міфалагічных стварэнняў або адштурхнуцца ад іх асабістых гісторый. Можна нават папрацаваць над асобным класам міфалагічных істот, напрыклад, вадзянікамі, лесавікамі або дамавікамі. Як цёпла бывае на душы, калі пераглядаеш мульцік пра дамавіка Кузю! А калі партэбен сучасны прыклад у літаратуры, звярні ўвагу на кнігу Наталлі Бучынскай «Атракцыёны для вадзянікаў: былі і небыліцы пра жыццё надводнае і падводнае».

Не трэба забывацца і пра нашых улюбёных зайчыкаў і вавёрачак, ваўкоў і лісічак, мядзведзяў і іншых жывёл. І, безумоўна, пра чалавека! Бо нам жа заўсёды цікава чытаць пра саміх сябе.

***Юлія ВАЎЧОК***

***Напішы незвычайную казку — і атрымай ад рэдакцыі падарунак!***

# Пакроў Найсвяцейшай Багародзіцы

## Чытаем ікону

Даволі часта ад веруючых людзей можна пачуць, што ікона нагадвае дзівоснае акно. У гэтым «акне» заўсёды бачны іншы Боскі свет, той, у якім няма ні болю, ні скрухі, ні слёз, а ёсць толькі радасць і любоў. Але гэта не значыць, што чалавечае зямное жыццё прасякнута цемрай і бядой ды пазбаўлена прысутнасці ў ім Бога, Найсвяцейшай Багародзіцы, святых ды анёлаў. Гэта не так. У прыватнасці, беларуская ікона «Пакроў» 1649 года паказвае, што калі бяда і напаткала асобнага чалавека ці нават цэлую дзяржаву, то варта тады, ад усяго сэрца памаліўшыся, папрасіць дапамогі, — тут жа адчуеш прысутнасць і атрымаеш заступніцтва нябесных сіл. Так і адбылося ў далёкім 910 годзе ў горадзе Канстанцінопалі (сучасны Стамбул).



***Абраз «Пакроў», 1649 год, Маларыта, невядомы мастак. Нацыянальны мастацкі музей.***

Здарылася так, што да сцен гэтага горада на караблях падступалі войскі варвараў. У тыя гады падобныя набегі нярэдка заканчваліся крывавай разнёй, і жыхары думалі, што ўжо да раніцы яны могуць развітацца са сваім жыццём. Тады святары, манахі і простыя людзі сабраліся ў царкве і пачалі маліцца аб збавенні ад ворагаў. І вось а чацвёртай гадзіне ночы святы Андрэй Канстанцінопальскі, падняўшы вочы да неба, убачыў Дзеву Марыю, азораную нябесным святлом і акружаную анёламі ды святымі. Божая Маці трымала ў руках белы платок, які яна зняла са сваёй галавы. І ў гонар таго, што веруючыя людзі ніколі не застаюцца адзін на адзін са сваёй бядой, яна раскінула гэтае покрыва над усімі жыхарамі, тым самым нібы ўзяўшы пад сваю абарону. У гэты момант на моры паднялася вялікая бура, якая раскідала караблі ворагаў, выратаваўшы жыхароў Канстанцінопаля ад смерці.

Гэтая гісторыя адлюстравана на старажытнай беларускай іконе XVII стагоддзя. Унізе мы бачым імператара, святароў і манахаў, якія ўсю ноч маліліся ў царкве. Хутчэй за ўсё, яны выкарыстоўвалі малітвы, якія напісаў і спяваў святы Раман. Гэтага святога так і празвалі — Раман Сладкапевец. Дарэчы, ён таксама выяўлены сярод людзей, якія моляцца. Раман стаіць на ўзвышшы пасярод храма і трымае ў руках скрутак з тэкстамі малітваў, адрасаваных Багародзіцы. Стары чалавек, напалову апрануты ў зялёную накідку, — гэта святы Андрэй Канстанцінопальскі. Узняўшы да неба руку, ён расказвае прысутным пра тое, што бачыць. А бачыць ён на аблоках Божую маці з пакровам у руках. Побач з ёй архангел Міхаіл і архангел Гаўрыіл. А за іх крыламі бачны воблачкі, на якіх на зямлю спускаюцца розныя святыя: апосталы Пётр і Павел, Мікола цудатворац, прарок Данііл і цар Давід. Ікона «Пакроў» паказвае нам, што кожны веруючы чалавек пры любых цяжкіх абставінах можа разлічваць на дапамогу святых і самой Божай маці.

***Дзмітрый САЛОДКІ,***
***навуковы супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея***

## Малітваслоў



***МАЛІТВА РАНІШНЯЯ***

*Устаўшы ад сну, перад усякай іншай справай стань благагавейна перад Усёвідушчым Богам і, робячы на сабе знак Крыжа, скажы:*
***У імя Айца, і Сына, і Сятога Духа. Амінь.***
*Потым трохі пачакай, пакуль усе пачуцці твае супакояцца і думкі твае пакінуць усё зямное, і тады гавары наступныя малітвы без паспешнасці і з увагай сардэчнай.*

## ШТО ПРАСІЦЬ У БОГА

Нельга прасіць у Бога чагосьці непатрэбнага або шкоднага для сябе ці іншых. «Просіце — і не атрымліваеце, бо просіце не на дабро», — піша святы апостал Іакаў. Але можна і нават трэба прасіць у Госпада таго, што святое, бязгрэшнае і добрае.

«Госпадзі, навучы нас маліцца», — з такой просьбай аднойчы звярнуўся да Госпада Ісуса Хрыста адзін з Яго вучняў. У адказ на гэтую просьбу Гасподзь даў усім Сваім паслядоўнікам узор малітвы — «Ойча наш». Акрамя гэтай самай галоўнай малітвы, якую мы называем малітвай Гасподняй, Святая Праваслаўная Царква, наша духоўная Маці, дае нам і іншыя ўзоры малітвы, складзеныя боганатхнёнымі святымі айцамі і хрысціянскімі падзвіжнікамі. Калі мы хочам навучыцца маліцца правільна, то нам трэба штодзённа ўжываць устаноўленае Святою Царквою малітвеннае правіла: малітвы ранішнія і малітвы вячэрнія.

***З прадмовы «Пра малітву» протаіерэя Сергія ГАРДУНА***
***да кнігі «Праваслаўны малітваслоў»***


*Мастачка*
*Анастасія ХАДАКОЎСКАЯ*

## ПРЫГАТУЕМ НА ДЗЕНЬ МАЦІ

Дзве пачкі вафель (дэсертных, сметанковых, апельсінавых, лімонных, «Сняжынка» або «Чарнаморачка») прапусці, дружа, праз мясасечку. Дадай дзве сталовыя лыжкі смятаны (самай густой, самай тлустай) і старанна перамяшай рукамі. Сфарміруй з гэтай масы пірамідкі-клубніцы і шарыкі-вішанькі. Сыры бурак (а мо і два) натры на дробнай тарцы, выцісні праз марлю сок у глыбокую салатнічку. Макай кожную клубніцу і кожную вішаньку ў сок, абвальвай затым у цукры і выкладай на блюда, каб «ягадкі» падсохлі. Не хвалюйся, смак бурака не адчуваецца, ім даецца толькі колер. Калі мама ўбачыць на талерцы горку такіх «ягадак», яна ўзрадуецца: «Зноў лета?» Так ты павіншуеш яе з Днём Маці і падорыш радасць. А потым вы ўсёй сям’ёй будзеце частавацца ласункам, зробленым тваімі рукамі. Мама скажа: «Малайчынка мая».

## Размалёўка



1  2  3  4  5  6 



# Вікторыя МЯНАНАВА: «Лічу сваім абавязкам выконваць абяцанні, якія даю»

*Сакратар Цэнтральнага камітэта Грамадскага аб'яднання «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі», старшыня Цэнтральнага савета Грамадскага аб'яднання «Беларуская рэспубліканская піянерская арганізацыя» расказвае пра…*

## … СЯМ'Ю

Мама некалі хацела вадзіць машыну, але не адвучылася «на правы» — адправіла мяне; хацела танцаваць — цяпер танчу я, займаюся лацінаамерыканскімі танцамі. Мама марыла, каб дачка іграла на фартэпіяна, — і дачка іграе. Тата хацеў, каб я стала пракурорам, — не стала, але юрыдычную адукацыю атрымала, другую вышэйшую. Я не лічу, што раблю штосьці не так — усё да лепшага.

У мяне дастаткова захапленняў і часу на іх хапае, але праца займае шмат. Бывае, успамінаю пра нябожчыц-бабуль, якія мяне шмат чаму навучылі. Езджу на могілкі не па нейкіх спецыяльных святах, а калі хочацца пагутарыць з імі. Адна з бабуль была настаўніцай, 35 гадоў аддала школе. Можа, таму мне заўсёды хацелася працаваць з дзецьмі.

Так, я не выкладаю, ну і што? Чаму я ў школе не засталася? Не гатова была сваё жыццё цалкам прысвяціць ёй.

## … ПРАЦУ

Трэці год я працую з дзецьмі, а яны — праваднікі станоўчых эмоцый і вельмі цікавых ідэй. Усе праекты, якія мы рэалізуем, я спрабую ўзгадняць з імі, бо тое, што можам прапанаваць я ці мае калегі, — гэта толькі наша бачанне. Калі даведваешся, як дзеці ўяўляюць праект, то разумееш — гэта зусім іншае.

Не трэба праводзіць мерапрыемства дзеля мерапрыемства. Заўсёды пераконваюся ў тым, што павінен быць нейкі вынік. Вось ты правёў мерапрыемства, а што далей? Мы нават у апошняй главе палажэння прапісваем вынік, якога чакаем.

## … ПАТРЫЯТЫЗМ

У мяне пытаюцца: навошта школьніку станавіцца піянерам? Тлумачу, што менавіта з сямі гадоў варта развіваць патрыятычныя рысы. Калі мы не будзем гэта

рабіць, моладзь будзе прадастаўлена сама сабе. Што для моладзі важна? Грошы? Мы ў той ці іншай ступені, безумоўна, залежым ад іх. І чалавек павінен добра зарабляць, каб забяспечыць сабе годнае жыццё: падарожнічаць, здзяйсняць мары, пашыраць кругагляд. Але любоў да сям'і і Радзімы, сумленне, адказнасць перад сабою і іншымі — вышэй, чым матэрыяльныя каштоўнасці.

Ёсць у мяне прыклад, які не стамляюся прыводзіць: хлопчык дзесяці гадоў — сёлета яго прынялі ў піянеры — ганарыцца тым, што ён патрыёт, і не саромеецца пра гэта казаць, і спявае патрыятычныя песні. Бабуля пашыла яму ваенную форму — касцюм капітана, ён у ім выступае. Нават «Вконтакте» на сваёй старонцы напісаў: «Мая мара спраўдзілася — я стаў піянерам». Ён ганарыцца не таму, што мы яму падказалі ганарыцца, а таму, што сам адчувае гонар.

## ... СТРАХІ

Я вельмі люблю плаваць і па знаку задыяка Рыбы, але ніколі не буду займацца дайвінгам. Вельмі хачу скокнуць з парашутам — гэта мара, якую я некалі ажыццяўлю. А калі думаць больш глыбока... Ёсць страх не паспець зрабіць тое, што хочацца паспець у маладосці. Чакала васямнаццаці гадоў, як манны нябеснай. Цяпер думаю: дзе ж мае васямнаццаць? Як паспець пакінуць след у жыцці, а не толькі ў грамадстве? Дробных страхаў у мяне, напэўна, няма. Спрабую карыстацца прыказкай: «Хто пытае, той многа знае». Калі неабходна нечага дамагчыся, то проста спрабую гэта зрабіць. Калі стукацца, любыя дзверы адчыняюцца.

## ... КОНЕЙ

Я нарадзілася ў год Каня. Мне падабаюцца гэтыя жывёлы — яны моцныя, працавітыя, ганарлівыя. Дарэчы, у кітайскай мове слова «мама» складаецца з двух іерогліфаў, якія паасобку азначаюць «жанчына» і «конь». Можа, і сімвалічна… Мне падабаюцца вочы коней: яны такія шчырыя!

## ... ЗАДАВАЛЬНЕННІ

Калі шчыра, то я не ўмею карысна адпачываць. Вельмі люблю есці, шмат і часта, — такую звычку прышчапіў мне спорт. Люблю праводзіць час у агародзе, чытаць і падарожнічаць. Наогул, трэба кожны дзень ставіць сабе мэты, запісваць іх у асабісты дзённік ці нататнік — і рэалізоўваць. Але, на жаль, не заўсёды атрымліваецца зрабіць усё запланаванае. Часам лянота перацягвае коўдру на сябе.

## ... ВАЖНАЕ

Метад асабістага прыкладу — самы дзейсны. Я лічу сваім абавязкам выконваць абяцанні, якія даю. Калі ты сам шчыра ставішся да таго, што робіш, і паказваеш, што справа патрэбная, то і іншым цікава. Мы працуем, каб у моладзі сфарміраваліся тыя каштоўнасці, якія спрыяюць мэтам і задачам нашай арганізацыі. У нашай працы трэба справамі даказваць, што ты лідар моладзевай арганізацыі і вядзеш за сабою. А калі сядзіш і не дзейнічаеш — гэта ж бачна.

Трэба заўсёды імкнуцца да большага, рухацца да лепшага.

***Запісала Юлія ВАЎЧОК***

# Партрэт на фоне праектаў

***Шмат што можа расказаць пра чалавека яго працоўнае месца. Наша рэдакцыя вырашыла, што партрэт Вікторыі Мянанавай будзе няўпоўным, калі мы не раскрыем сакрэты яе кабінета.***





«Яшчэ не так даўно я была адказнай за Гродзенскую вобласць, і ў кабінеце шмат усялякага з тых мясцін. Вось, напрыклад, гадзінік з надпісам “Моладзь Гродзеншчыны”».

«Фота на палатне — падарунак калег на мінулы дзень нараджэння. Партрэт звычайна стаіць на шафе».



«З таго, што зроблена рукамі дзяцей, — дрэва ад акцябрат».




«Кніга “Ніколі не забудзем” — вынік сумеснай працы з Выдавецкім домам “Звязда”. Мы хацелі, каб дзеці не толькі праявілі сябе як аўтары, але і зацікавіліся гісторыяй сваёй сям’і».




«З моладзевага патрыятычнага праекта “Кветкі Вялікай Перамогі” засталіся шторы. Яны віселі ў агітцягніку ў вагоне-музеі».



«Сэрца мне даслалі берасцейскія піянеры — віншавалі з Днём усіх закаханых. Яно было з асабістым прызнаннем, але, на жаль, паперка адвалілася».

# Бацькі разводзяцца — што рабіць?



*Святлана Сітнік, псіхолаг*

Такім пытаннем задавалася Віка, падыходзячы да невялікага парку ля Нямігі. Там ужо сядзелі хлопцы — трохі старэйшыя за яе, але гэта не збянтэжыла дзяўчыну: «Чым старэйшыя сябры — тым яны цікавей», — падумала яна. Новая сяброўка «Вконтакте» гэтымі днямі запрасіла Віку ў сваю тусоўку, паабяцаўшы, што гэта адцягне яе ад праблем, і запрашэнне было прынята з радасцю.

— Ты ў парадку? — неўзабаве спытаў Саша. — Я бачу, сумуеш.

— Так, усё норм, толькі бацькі разводзяцца, — адказала Віка. — Цяжка неяк на душы. І не ведаю, што рабіць.

— Супакойся, — падхапіў размову Сяргей. — Знайшла з-за чаго перажываць. Мае бацькі таксама нядаўна развяліся, я застаўся з мамай, і нічога, жыву сабе, нават яшчэ лепш, чым раней! Прынамсі, больш няма лаянак, якія ладзіў нам бацька. Зараз магу спакойна рабіць урокі і «сядзець у кампе». Нават вучыцца пачаў лепш!

— Мне здаецца, што цяпер я буду не такая, як усе, што са мной нешта не так ... — працягвала хвалявацца Віка.

— Што значыць «не як усе»? — перапытала новая сяброўка. — Ты распытай сваіх аднакласнікаў. Я ўпэўнена, што ў многіх бацькі альбо развяліся, альбо збіраюцца гэта зрабіць. Лёша, — звярнулася яна да хлопца, які сядзеў аддалена, але ўважліва прыслухоўваўся да размовы, — твае бацькі як?

— Мае? — Лёша задумаўся. — Я не ведаю... — прамармытаў ён. — Дарэчы, у Віталіка бацькі ўжо даўно ў разводзе, — адказаў ён за сябра, які не змог сёння прыйсці.

— Ну, вось бачыш! — паспрабавала суцешыць Віку сяброўка. — Не ты адна такая! І мае бацькі, калі пачынаюць сварыцца, палохаюць адно аднаго тым, што разыдуцца. Ну і няхай — перажывём!

— Перажывём, — усміхнулася Віка і, набраўшы ў лёгкія паветра, цяжка яго выдыхнула. Ёй падалося, што разам з выдыхам сышлі яе хваляванні і перажыванні. Цяпер яны здаваліся ёй непатрэбнымі, яна ведала, што не адна — у яе ёсць сябры, а з імі — дапамога і падтрымка.

Але што рабіць табе, дружа, калі і ты трапіў у такую сітуацыю?



*Мастачка
Алёна МАКАВЕЦКАЯ*

## ПАШУКАЙ КАШТОЎНАЕ ДЛЯ СЯБЕ

Нават у самых складаных сітуацыях можна адшукаць нешта каштоўнае (ці хаця б добрае) для сябе. Напрыклад, Аляксандра ўзрадавалася, што маці сышла ад бацькі, бо гэта дало ёй больш свабоды. Бацька пастаянна «ціснуў» на яе: тое не так, гэта не гэтак, рабі, як я сказаў, жыві па маіх правілах. Мама ж, наадварот, як і Саша, любіць «творчы вэрхал».

Калі яны разам з мамай пераехалі з вялікага прыгожага будынка ў маленькую аднапакаёвую кватэру, мама спытала ў яе:

— Не шкадуеш? Тут так мала месца, а ў цябе быў асобны пакой.

— Вядома ж, не! Так, у мяне быў пакой, але хіба ён быў маім, калі любы мог зайсці ў яго, калі хочацца, ды яшчэ так, як гэта любіў рабіць тата, — нават не пастукаўшы! А тут так прыемна і ўтульна. Ты як хочаш, а я застануся тут.

## ПАСТАРАЙСЯ ЗНАЙСЦІ ПЛЮСЫ

Можаш зрабіць невялікае практыкаванне. Выпішы на лісток паперы ўсе плюсы, якія асабіста ты атрымліваеш ад разводу бацькоў. Гэта можа быць свабода і асабістая прастора, у якую ніхто не ўмешваецца, як было, напрыклад, у Аляксандры. Гэта можа быць спакойнае жыццё, без лаянак па вечарах, якім пачаў жыць Сяргей. Паглядзі на свой спіс — хіба гэта не падстава для ўсмешкі?

Любое сваё стаўленне да сітуацыі можна перавярнуць дагары нагамі, памяняць мінус на плюс, як, напрыклад, гэта зрабіў Валодзя. Аднойчы ён сказаў свайму сябру:

— Гэта ж, наадварот, класна, калі бацькі разводзяцца! Яны ж будуць канкураваць паміж сабой, кожны будзе прагнуць даказаць, што ён любіць цябе больш за другога! Ты атрымліваеш падарунак ад мамы, а тата стараецца зрабіць табе падарунак лепшы і даражэйшы. А потым маці стараецца яшчэ больш, а потым бацька... І ты атрымліваеш два падарункі, а раней — толькі адзін, агульны, ад іх дваіх!

Так, Валодзя на рэдкасць практычны, але сябар абышоў яго:

— А пры гэтым яшчэ будзе канкурэнцыя паміж маім бацькам і айчымам, — працягваў жартаваць ён. — Яны ж таксама будуць даказваць хто лепшы! Хто дабрэйшы, хто разумнейшы! І будуць дарыць мне прышпільныя падарункі! Цяпер у мяне будзе пад ёлкай ляжаць тры падарункі замест аднаго!

## РУХАЙСЯ Ў БОК НОВАГА

Твае бацькі разводзяцца (ці ўжо развяліся), таму што рухаюцца (рухаліся) да чагосьці новага. Напрыклад, тата Аліны хацеў новых адносін з каханай жанчынай, таму што ранейшую, Аліціну маму, ён даўно разлюбіў. А мама Колі вырашыла сысці ад яго таты, бо хацела лепшага жыцця, без сварак і папрокаў, якія ёй надакучылі. Кожны чалавек імкнецца да новага жыцця, шукае лепшага, і мае на гэта права.

Бацькі таксама хочуць жыць лепш, таму яны прымаюць рашэнне аб разводзе. Яны хочуць, каб у цябе ўсё было добра, калі ты будзеш глядзець у будучыню разам з імі. Паспрабуй убачыць сваё новае жыццё і новыя магчымасці, якія яно дае табе. Напрыклад, пераезд у іншае месца і пераход у новую школу дадуць табе магчымасць павялічыць колькасць сяброў, якія могуць апынуцца сапраўднымі, у адрозненне ад тваіх старых аднакласнікаў. Ты можаш знайсці ў іх дапамогу і падтрымку, як гэта было ў Вікі, а гэта вельмі важна!

Ці твой айчым. Ён можа шмат у чым дапамагчы табе, стаць тваім сябрам. Напрыклад, Вользе айчым дапамог падцягнуць матэматыку і фізіку, хутка яна выдатна здала тэсціраванне. Айчым Іллі навучыў яго іграць у тэніс, і цяпер гэтая гульня — найцікавешая справа для хлопца. «Новы тата» Анжэлы, як яна яго называе, любіць падарожнічаць і камунікаваць з рознымі людзьмі, таму яна мае добрую магчымасць практыкаваць англійскую мову, тым больш, што яна хоча стаць перакладчыкам. А Яна атрымала ў падарунак ад айчыма велізарны набор маркераў для малявання — выдатны пачатак вучобы ў каледжы мастацтваў!

***

Развод бацькоў — гэта заўсёды выпрабаванне. І для іх, і для цябе. Шукай дапамогу і падтрымку — няхай гэта будуць сябры, аднакласнікі, бабулі і дзядулі, настаўнікі або трэнеры — ты заўжды знойдзеш яе. Не «завісай», як стары камп’ютар, у крыўдах і перажываннях, шукай плюсы і добрыя моманты — яны дапамогуць табе лягчэй перажыць цяжкасці і справіцца з выпрабаваннем. Наперадзе новае жыццё ў новай сям’і. Але хто сказаў, што яна таксама павінна быць выпрабаваннем?

Аўтар рубрыкі Ліна Багданава



Мастачка Ганна ДЗЕХЦЯРОВА

12+

# І каму яно патрэбна, сямейнае шчасце?

Аленку нічога не цешыла: ні ўлюбёная залатая восень, ні вакацыі, якія набліжаюцца, ні добрыя адзнакі за чвэрць. Яна ўсё больш замыкалася ў сабе: перастала дзяліцца з сяброўкамі сакрэтамі, не хадзіла на школьныя дыскатэкі, не запрашала дзяўчат у госці.

Аднакласніцы не надта хваляваліся: падумаеш, дзівацтвы. На тое і патрэбен пераходны ўзрост, каб капрызіць. Хай крыху падзьмецца, яе не паменшае. Спрабавалі, вядома, адшукаць прычыну. Раз спыталі — Аленка адмоўчваецца, утыкнуўшыся ў экран мабільніка, другі раз спыталі — такі ж вынік, і адчапіліся. Сваіх праблем хапае! Захоча — сама ўсё раскажа, не захоча — вельмі трэба.

Аленка злавалася: паспрабуй раскажы, калі і сама дакладна не разумееш, адкуль у новай сітуацыі ногі растуць. Ці варта чужых у сямейныя справы ўмешваць? Можна, вядома, бабулі паскардзіцца, але ў яе здароўе слабое, і не хочацца псаваць ёй настрой.

Была яшчэ мама. Але з ёй Аленцы не хацелася гаварыць, таму што менавіта з мамы ўсё і пачалося. Калі коратка: у мамы з’явіўся сябар, магчыма, нават палюбоўнік. Аленка не маленькая, чула пра падобныя адносіны.

Са Зміцерам мама пазнаёміліся летам — стала знікаць па вечарах. У верасні прывяла яго дахаты, на сустрэчу з Аленкай, бабуляй і коткай Пусяю. Узрадавала, так бы мовіць! Усе планы парушыла!

Шчасця ім паабяцала, сапраўднага — сямейнага. І каму яно патрэбна, гэта сямейнае шчасце? Хіба дрэнна ім было ўчатырох? Суцэльнае жаночае царства, як казала бабуля. Адвячоркам пап'юць гарбаты, папляткараць, пахіхікаюць, потым прагуляюцца ў скверыку перад сном. Папстрыкаюць новыя фоткі ў камп'ютары, серыял паглядзяць, улягуцца побач. Хараство!

А зараз… Усе планы ляцяць да нячысціка! Мама абяцала на вакацыях гарачы тур падабраць і звазіць Аленку ў якую Грэцыю ці на Кіпр. Улетку да падобных курортаў не падступіцца: на маме крэдыт за кватэру вісіць, цяжкавата ім даводзіцца.

І потым, Зміцер гэты зусім чужы ім чалавек. Добра б тата… Хоць тата з Аленкай бачыцца разы тры на год: пра штосьці спытае, кудысьці зводзіць, штосьці падорыць, плюс аліменты. Нічога больш… А дзяўчынка нудзіцца, любіць яго, тэлефануе час ад часу.

Ну трэба ж было ім з мамай разысціся! Хоць бы сястрычку падарылі ці браціка. Нудна адной. Пуся, вядома, любімка, але не родны чалавек.

Зараз вось і мама адлучыцца — Аленка на другі план адыдзе, калі не на трэці. Зоймецца матуля сваім Змітрыкам, усе вечары з ім будзе праводзіць. Той, вядома, імкнецца спадабацца Аленцы: гісторыі вясёлыя расказвае, на машыне іх з мамай катае, мішку падарыў плюшавага. Прышпільнага такога, з Аленку ростам. Абяцаў замест Грэцыі ў Тайланд іх адвезці, а ўзімку куды-небудзь у горы.

Вельмі патрэбны Аленцы яго горы! Ёй мама патрэбна.

А можа, выкінуць які фортэль? З хаты пайсці ці з моста скокнуць? Ну, не насамрэч, а так, дзеля забавы. Ці насамрэч? Мама потым шкадаваць будзе. Плакаць. Успамінаць…

Не, з моста не трэба, страшна. І назаўсёды! А сыходзіць назусім не хочацца — лепш з хаты. Куды б падацца? На вуліцы халодна і страшна ўночы адной. Можа, да знаёмых напрасіцца? А калі да таты…

***Шкодная вучылка:***

— Бач, чаго ўдумала: бацькоў палохаць! І гэта завецца падзякай? Маці цябе корміць, поіць, апранае. Перажывае за твае няшчасці і цешыцца поспехамі. А ты? Да таты! Не думаю, што ён вельмі ўзрадуецца. Яму прасцей быць добрым на адлегласці.

І потым, чаго забівацца? Мама твая кабета прыстойная, абы-каго ў хату не прывядзе. Сто разоў падумае.

Так што ўціхамірся, дзяўчынка мая, прымі ўсё, як ёсць. Дарослыя лепей ведаюць. У любым выпадку мама цябе ў крыўду не дасць і любіць менш не будзе.

Час перастаць забіваць галаву рознымі дурасцямі. Табе вучыцца трэба. Скончыш школу, потым універсітэт, атрымаеш добрую спецыяльнасць, станеш самастойнай. І ўсе цяперашнія праблемы апынуцца дробнымі непаразуменнямі. Потым успомніш мае словы.

***Прасунуты старшакласнік:***

— Не пашанцавала? Я б не сказаў. Падумаеш, мама знайшла сабе новага мужа. Куды горш, калі б мама твая да старасці адна пражыла. Яна ж і не старая яшчэ. Колькі ёй? Гадоў трыццаць-трыццаць пяць? У такія гады дзяцей нараджаюць, між іншым.

Ты ж пра брацiка марыла ці сястрычку. Дык чаго злуеш? І Зміцер гэты, па ўсім відаць, чалавек добры. Іншы б не стаў чужых дачок па курортах вазіць. Узялі б з тваёй матуляй «рамантык» на дваіх. Не дуры, дзяўчынка. Асабліва з фантазіямі на тэму суіцыду — небяспечная гэта справа. Памятай, жыццё ў нас адно. Тут кожная хвіліна, нават самая цяжкая, на вагу золата. Шануй, што маеш! І паспрабуй новую сітуацыю павярнуць сабе на карысць. Упэўнены, усё ў цябе атрымаецца. Будзь!

***Дасведчаны псіхолаг:***

— Пачну са звычайнай памылкі падлетка. Чаму кожнаму з вас здаецца, што вас любяць менш, чым раней? Ні пры якіх абставінах маці не стане любіць сваё дзіця менш. Проста пачуццё можа змяніцца, стаць не такім дэманстратыўным, як раней. І што з таго?

Любыя хатнія вячоркі ніхто не скасуе. І вечаровыя шпацыры, упэўнена, у цябе застануцца. І сакрэты, і гарбата на кухні, і мамчына пяшчота.

І яшчэ: ты сталееш, гэта нармальна, ці не так? Вось і паводзь сябе, як дарослая. Паспрабуй зразумець маму, яе пачуцці і жаданні. Стань яе сяброўкай. Дай ёй больш увагі і цяпла. Выдатна не толькі быць любімай, але і любіць. Не толькі калі цябе разумеюць, але калі і ты разумееш іншых. Не толькі калі пра цябе клапоцяцца, але калі і ты сама думаеш пра тых, хто побач.

Помні, мама цябе не кінула ў самую цяжкую хвіліну свайго жыцця. Не кідай і ты яе. Ёй цяпер нялёгка, яна ўсё выдатна адчувае і разумее. Яна турбуецца пра цябе. Не замыкайся, зрабі крок насустрач самаму блізкаму ў тваім жыцці чалавеку. Калі не знойдзеш адвагі пагаварыць, выслухай.

Паспрабуй адказаць на пытанне: ці хочаш ты, каб мама была шчаслівая? А калі гэта шчасце змяшчаецца ў тым самым Змітраку? Дапамажы ёй стаць шчаслівай і будзь побач.

Пра масты, дахі, таблеткі лепш адразу забыцца. Зразумей, гэта смяротна небяспечныя фантазіі. Трэба любіць і сябе, і жыццё вакол. Хіба не выдатныя падпаленыя агнём клёны на заходзе? А пеністыя баранчыкі марскіх хваляў? А твая котка Пуся, якая вуркоча ад лішку пачуццяў на тваіх каленках. Падумай пра слабое здароўе бабулі. І пра матулю, якая цябе любіць. Няўжо можна вось так усё гэта пакінуць і пайсці ў нікуды? Па дарозе болю, жаху і пакут? Няўжо можна аддаць перавагу смерці, калі ты маладая і здаровая? І хіба вырашыць гэта праблему, зробіць некага шчаслівым? Жыццё — самае выдатнае з дзіваў. Табе гэта дзіва дадзена, дык жыві!

***Ну, а калі давядзецца вельмі цяжка, набяры тэлефон даверу: 8-801-100-16-11. Задай пытанне спецыялісту. Табе абавязкова дапамогуць.***

*Аксана СПРЫНЧАН*

# Стыльныя вершы



## СУ-РОК-ВЫКАНАЎЦА

Сурок любіў выконваць рок,
Бо хто ж яшчэ як не сурок.

Свет і су-свет, рок і су-рок —
Па вушках музыка — як ток.

У слухачоў прыемны шок,
Як рок выконвае сурок.

І як не прапусціць урок —
Калі рок-зоркаю сурок.

Да месца будзе тут папрок,
Але ж я гэта незнарок.

Жыццё маё — суцэльны змрок,
Як не спявае рок сурок.



## РАК-Н-РОЛ

Рок-н-рол задумаў рак
Пра чырвоны дзіва-мак.

Вызірнуў з рачулкі ён
І пабачыў: мак — зялён.

Як жа рок-н-рол пісаць —
Могуць ракі засвістаць?!

І пакуль чакаў рачок,
Сам патрапіў на гачок.

Рак-н-рол стварыў рыбак,
У якім чырвоны рак.



## ВОЎК І ФОЛЬК

Хто спявае ў лесе фольк?
Ну, вядома ж, гэта воўк.

Так працяжна і гаротна
«У» ляціць яго самотна.

А падыдзе як ваўчыца —
Воўк надумае жаніцца.

«У» вясёлае нясецца,
Нібы полечка трасецца.

У вясельным карагодзе
Толькі голад скажа: «Годзе!»

Што спявае ў лесе воўк?
Ну, вядома ж, толькі фольк.

***Аксана Спрынчан — аўтарка шматлікіх паэтычных зборнікаў для дарослых, але ёсць у яе кніга «Таташ Яраш, мамана Аксана, дачэта Альжбэта. Поўны эксклюзіў», аповед у якой вядзецца ад імя дачкі Альжбэты.***

## ДЗІКАБЛЮЗ

Дзікабраз — калючы звер,
Альбо вер альбо павер,

Захацеў выконваць блюз,
Бо імкнуўся ў блюз-саюз.

У саюзе ж — слухачы
І глядзяць там гледачы.

Дзікабраз і кантрабас
Блюз стваралі доўгі час.

А як выканалі блюз,
Дык параду даў саюз:

Дзікаблюз стварыць ім свой —
Хочаш падай, хочаш стой.



## КЛОП І ПОП

Клоп спявае ў стылі поп,
І яму не скажаш: «Стоп!»

Ён і скокне проста ў лоб,
І смярдзіць, бо ён — не боб.

У яго ёсць свой фан-клоп,
Воплескі чуваць — хлоп-хлоп.

А як плясне не прыхільнік —
Вось ужо і
клоп-магільнік.





## ПАДЗЕМНАЯ ЗОРКА

Пад зямлёю чорны крот
Піша жарсна свой факстрот.

У парыве — ноты вые,
У парыве — норы рые.

Як пабачыце вы горкі —
То стварэнне чорнай зоркі.

## РЭП ПРА РЭПУ

Дзед
Пра рэпу
Рэп
Пісаў.
Напісаў
І ў такт
Скакаў.
Танчыў так,
Што згаладаўся.
Рэпу з’еў,
А рэп
Застаўся.



*У майскім і чэрвеньскім нумарах «Бярозкі» чытачы маглі пазнаёміцца з першай часткай аповесці. Цяпер прапануем заключную частку гэтай цікавай гісторыі.*

***Алег ЖДАН***

# Прынцэса

*Частка другая*

## ЗАВЯЛІ ПАМІДОРЫ

Мішка Сідарчук атрымаў новую мянушку — «Прынц». Павесіў яе, таксама як некалі «Пельменя», канешне ж, Юра. Болей няма каму. Але калі «Пельмень» Мішку адразу спадабалася, і ён ахвотна адгукаўся на яе, то «Прынц» — не, не спадабалася. «Які я табе прынц?» — бурчаў ён. Канешне ж, тут быў ківок на графіці з прынцэсай. Але ў чым вінаваты чалавек, калі закахаўся? Абсалютна ні ў чым. І ўвогуле, з кім не бывае. Тым болей, што, ізноў жа, каханне прайшло — завялі памідоры. Акрамя таго, Ленка ўзяла Мішку пад сваю абарону.



— Што ты да яго чапляешся? — запыталася яна. — Хочаш атрымаць байкот?

І Юрка апусціў галаву, гэта значыць — спужаўся. Байкот — справа вельмі непрыемная. Гэта калі цябе ніхто не бачыць, не чуе. А Ленка з яе аўтарытэтам у класе цалкам можа такую справу арганізаваць. Словам, гэтая мянушка пратрымалася нядоўга.

Але ўвогуле байкот абвяшчаюць, калі нехта выступіць супраць усіх. Калі, напрыклад, нейкая здрада альбо падлянка.

Завялі памідоры, але сябраваць яны не перасталі. Напрыклад, нядаўна Пельмень і Ленка, калі ішлі дахаты, сустрэлі хлопцаў з 51-й школы. «Гэй, рыжая, ідзі да нас!» — крыкнуў адзін, відаць, самы смелы ці нахабны. А другі, болей разумны, адразу яго астудзіў: «Ты што? Гэта ж Пельмень!» Усё. Цішыня і спакой.

Увогуле Пельмень стаў выглядаць страшнавата, як сапраўдны качок. На апошнім уроку фізкультуры Яўген Іванавіч сказаў яму: «А ну, здымі майку!» А калі зняў, папляскаў яго па спіне, па плячах і павярнуўся да нас: «Бачылі?.. Вось так…»

За апошні год мы ўсе моцна змяніліся. Ленка кінула гімнастыку, Юрка перастаў займацца шахматамі, у мяне закончыліся вершы… Толькі Пельмень працягваў займацца спортам і накачваць мышцы.

Неяк паступова забыліся, што ён хацеў стаць касманаўтам. Праўду казаў Юрка: куды з такім ростам, з такімі плячыма… Яму гіры цягаць ці молат кідаць, а не на караблі лятаць. Ды і сам Мішка засумняваўся: можа, і не патрэбна яму ў космас? Можа, прызванне яго на Зямлі?.. Ды і ўсе мы: калі раней кожны ведаў, чым будзе займацца пасля школы, цяпер — маўчалі. Маўчалі і нашы бацькі. Ну што ж, час яшчэ ёсць, вызначымся. Дарэчы, як паказала будучыня, надзеі на касманаўтыку ўсё яшчэ заставаліся. Ды якія! Але пра гэта — пазней.

Аднак тое, што памідоры завялі — факт. Калі раней Пельмень і сустракаў Ленку, калі ішла ў школу, ды праважаў да самага пад'езда, а то і падымаўся на яе шосты паверх, то цяпер нават на фізкультуры не патрабаваў увагі: «Ленка, глядзі!» І рабіў сальта ці «сонейка».

А хутка адбылося нешта такое, што ізноў змяніла ўсю сітуацыю. Справа ў тым, што аднойчы ў школу прыйшлі людзі з тэлебачання, як высветлілася, у пошуках хлапцоў і дзяўчат для школьнай праграмы. У якасці вядучых. Яны ўваходзілі ў класы, некалькі хвілін тупа стаялі і ўглядаліся ў нашы твары, і, расчараваныя, сыходзілі.

І раптам адзін з іх, доўгі, худы, лахматы, з выразам абсалютнай роспачы на твары і ва ўсёй фігуры, пальцам ткнуў у Ленку:

— Дык вось жа яна! — усклікнуў і роспач пачала аддаваць свае пазіцыі надзеі.

— Хто? — здзівіўся другі. Таксама пануры, але тоўсты. — Рыжанькая? Не, не падыходзіць. Прыгожая.

— Нарэшце! — узрадаваўся лахматы. — Без сумненняў! Бяром! Без кастынгу! Як завуць? Які клас?

— Без кастынгу нельга, — сярдзіта сказаў тоўсты. — Парадак ёсць парадак.

— Ладна. На кастынг!

Натуральна, слых пра тое, што Ленку запрасілі на кастынг вядучых нейкай тэлепраграмы, распаўсюдзіўся па ўсёй школе, як пажар на ветры.

— Ну, зразумела, — гаварылі зайздроснікі. — Яна рыжая, ён лахматы.

Але, увогуле, зайздроснікаў было няшмат. Ды і чаму зайздросціць? Ва ўсіх усё наперадзе. У тым ліку і тэлебачанне, і кіно, і Алімпійскія гульні.

— Ну, а што сказалі твае бацькі? — спытала Ніна Леанідаўна.

— Мама — за, тата — супраць, — адказала Ленка.

— А ты сама?

Тут Ленка збянтэжылася і пачырванела. Зразумела, як можна адмовіцца ад такой удачы і славы?

Між іншым, гэты чалавек з тэлебачання, як мы пазней даведаліся — рэжысёр, прамовіў адну фразу: «Тое, што трэба. Праўда, крышачку паўнаватая… Ладна, падыдзе». Сказаў быццам сам сабе, але ж Ленка пачула. І ўжо на наступны дзень у сталоўку не пайшла. Не хадзіла і ўвесь тыдзень. І, трэба заўважыць, худзець пачала проста на вачах.

— Ты што? — першым на гэта звярнуў увагу Прынц-Пельмень. — Зусім ужо? Пакруціў пальцам ля скроні.

Ну вось, а гавораць — завялі памідоры. На наступны дзень ён схапіў Ленку за руку і пацягнуў у сталоўку. Пасадзіў насупраць сябе і сказаў: «Еш!» Трэба сказаць, што катлеты ў той дзень былі выключныя, пахі забойныя, і Ленка спачатку глытала слінкі, стараючыся не глядзець у талерку, а потым усё ж, не гледзячы, узяла відэлец і… Вось так… Бог з ім, з тэлебачаннем.



Кастынг адбыўся праз тыдзень. Праважалі мы Ленку ўсім класам. Пельмень хацеў пайсці з ёю, але яна адмовілася. «Навошта?» — спытала.

— Ну, ці мала што. Невядома, што там за казлы.

Не, не захацела.

Праважалі ўсім класам і таксама на наступны дзень сустракалі. Але…

Нешта яна, Ленка, ішла марудна, быццам не хацела падыходзіць да школы.

— Ну? Што маўчыш? Прайшла кастынг?

А Ленка замест адказу наўзрыд расплакалася.

— Так я і ведаў, — сказаў Пельмень. — Казлы!.. Ды не раві ты!.. Усё да лепшага. Вось я хацеў у школу алімпійскага рэзерву. Там трэба ў алімпійскай вёсцы і жыць, і вучыцца, і трэніравацца — кайф. А бацька сказаў — прыб'ю.

— За што?

— Такога дасць ляшча — з ног саб'е. Калі не ў настроі — на дарозе не стой: баця — мае права… А ўвогуле на руку, на армрэслінг, я яго лёгка кладу.

Ну, гэта зразумела. Такія біцэпсы нарасціў — таксама на дарозе не стой.

Пельмень хацеў пагладзіць Ленку па спіне, але яна адкінула яго руку і зноў расплакалася. І гэта зразумела: можна сказаць, першая сур'ёзная параза ў жыцці. Нічога, хутка супакоілася. І нават расказала, што прыйшоў цэлы натоўп жадаючых, расказала, як праходзіла кастынг, як давялося чытаць незнаёмы тэкст і адказваць на нечаканыя пытанні.

— Ну, я ж казаў — казлы, — падсумаваў размову Пельмень.

Гэтым разам Ленка пагадзілася.

## НА МАРС!

Дык вось, пра космас… Раптам Пельмень і дома, і ў школе, і на перапынках, і на ўроках стаў завучваць англійскія словы. «Што ты надумаў, Пельмень?» — пацікавілася Ленка. — «Ён задумаў зваліць у Штаты, — як звычайна, з іроніяй сказаў Юрка, — у НАСА. Там у касманаўты прымаюць з любой вагой і любым ростам». НАСА, як вядома, амерыканскі касмічны цэнтр. Гэта яны пасылалі касманаўтаў на Месяц, іх карабель абляцеў Венеру.

І, як ні дзіўна, Юрка аказаўся недалёка ад ісціны.

Што касманаўтам Пельменю не бываць, нам стала зразумела даўно, а цяпер — і яму самому. Але, можа, пашанцуе пабыць у космасе ў ролі турыста? Не, для гэтага патрэбна шмат грошай. Вялікія зялёныя мільёны!.. Праўда, прайшла чутка, што НАСА набірае пасажыраў для палёту на Марс толькі ў адзін бок. Туды! І гэта моцна натхніла Мішку. Некалькі дзён ён шукаў у інтэрнэце, дзе запісваюць на такі палёт. І, здаецца, знайшоў… Віртуальна падаў заяву з просьбай залічыць яго

ў палёт. Жадаючых знайшлося шмат. І каб прайсці конкурс, патрэбна мець сапраўдную мужнасць і выдатнае здароўе. Ну, усё гэта ў яго было. Напрыклад, у мінулым годзе ў школе здарылася павальная эпідэмія грыпу. Усе хварэлі, акрамя Пельменя: ён не хварэў ніколі. Зразумелая справа, загартоўка. У самы люты мароз ён у бацькоўскім кажуху і плаўках выбягае на двор і абціраецца снегам. Праўда, назад у кватэрку нясецца як куля…





Але высветлілася, што з палётам на Марс не ўсё так проста: заявы ад непаўналетніх НАСА не прымае, трэба прадаставіць згоду адначасова ад абодвух бацькоў. «Нічога! — бадзёра сказаў Мішка. — Хутка мы пашпарты атрымаем. А бацькоў я ўгавару. Мама, канешне ж, будзе нервавацца, а баця ў мяне што трэба. Угавару!» «А ты разумееш, што назад не вернешся?» — сказаў Юрка. «Ды разумею!.. — адмахнуўся Мішка, — затое — Марс! Я там такія здымкі зраблю… Сэлфі і ўвогуле…» «Ды каму ты пакажаш тое сэлфі? Ты там застанешся!» Не, Пельмень ні пра што і чуць не хацеў.

Трэба сказаць, ніхто не паверыў, што Пельмень на самай справе сабраўся на Марс. Больш таго, нават пасмейваліся. Але і Пельмень пасмейваўся — над намі. «Убачыце, — казаў. — Я слоў на вецер не кідаю». Увогуле да гэтага самага часу так і было.

На крайні выпадак, перапіска з НАСА пайшла Пельменю на карысць: васьмёркі па англійскай мове так і сыпаліся ў яго дзённік адна за адной.

Увогуле, Мішка стаў незвычайна папулярным у школе. Тое, што малышня прыбягала паглядзець на «дзядзьку Пельменя», гэта зразумела: дурні яшчэ. Але ж і вучні старэйшых класаў… Праўда, гэтыя прыходзілі не паглядзець, а пагаварыць з ім. А вось настаўнікі намеры Пельменя ўсур'ёз не прынялі. Хто адмахваўся, калі заходзіла размова пра яго будучыню, хто паціскаў плячыма, хто ўсміхаўся. Гіра, гэта значыць фізрук наш, Яўген Іванавіч, той увогуле гаварыць не хацеў, хаця ледзьве не кожны дзень заскокваў у клас, мацаў Мішкавы біцэпсы-трыцэпсы і гучна вяшчаў: «Малайчына!» Справа ўся ў тым, што набліжалася вясенняя гарадская спартакіяда. Трэба сказаць, што Пельмень рыхтаваўся да яе ўсур'ёз: кожны вечар бегаў у парку каля возера, скакаў, круціў-вярцеў «сонейка», адціскаўся па сто разоў.

## НЕ ХАЧУ БЫЦЬ ВЫДАТНІКАМ

Памятаю, у першым класе ўсе былі выдатнікамі, ну, можа, акрамя мяне і Мішкі Сідарчука, а цяпер выдатніцай засталася толькі Ленка. Ну і на здароўе. Хаця, напэўна, быць выдатніцай прыемна. Цяпер яна ўжо асуджана заставацца выдатніцай да канца школы. А можа, і ўсё жыццё. Ёй ніхто не дазволіць з'ехаць на шэраговую добрую вучаніцу. Кожны дзень, на кожным уроку, на любым перапынку на яе глядзіць уся школа, увесь клас, усе настаўнікі, бацькі — карацей кажучы, увесь свет. Не, не трэба мне такое шчасце. Гэта ж, у канцы канцоў, прыгонства! Ніякага асабістага жыцця! Але Ленцы, відаць, падабаецца. Усміхаецца. Заўсёды ўсміхаецца. Калі ў школу ідзе, са школы, калі ідзе да дошкі... У яе толькі два выразы твару: ці ўсміхаецца, ці — горкія слёзы, калі раптам атрымае сямёрку. Нават васьмёрку. Ух, тады да яе не падыходзь!

Лепей за ўсё быць проста добрым вучнем. Прыйшоў дахаты, кінуў ранец у кут, паеў — і на вуліцу. А там процьма такіх самых добрых вучняў. Гуляеш аж да самага вечара. Прыйдзеш дахаты, павячэраеш і…

— Урокі зрабіў? — спытае бабуля.

— Зрабіў.

— Нешта я не заўважыла.

— А нам сёння нічога не задавалі.

— Дзіўна, — гаворыць бабуля.

Пасядзіш крыху за камп'ютарам і — спаць. Галоўнае, выключыць святло і легчы ў ложак, пакуль мама з татам не прыйшлі.

Назаўтра прыходзіш у школу і — сямёркі, васьмёркі… Калі-небудзь нават дзявятка. Добра! Думаеце, што так не бывае?

— Ты б хацеў стаць круглым выдатнікам? — запытаўся я ў Пельменя.

— Навошта? — здзівіўся ён.

— Ну… слава… і ўсё такое.

Пельмень задумаўся. І ў канцы канцоў выдаў:

— Не. Бацька такога ляшча дасць…

— За што?

— Скажа, што ж ты, гад, да гэтай пары…

Спытаўся я ў Касценчыка:

— А ты?

— Я хацеў бы, — адразу адказаў ён. — У мяне з бацькам дамова: за кожную дзявятку — марозіва. Ведаеш, колькі назбіраецца да канца года?

— Ага, — пагадзіўся Лёха, але сумненні адбіліся ў яго вачах: грошай будзе многа, вось толькі якой працай давядзецца іх зарабляць!

***Заканчэнне ў наступным нумары***

***Пераклаў з рускай Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***

***Малюнкі Ганны БАРЫСАВЕЦ, гімназія № 1, Слуцк***




# Гасціннасць па-Дубатоўкаўску

Як расказваў Андрэй Беларэцкі пра свой візіт у дом Дубатоўка? *«На блюдзе ляжаў вялізны гусь з брусьнічным варэннем, індыковая ножка з яблыкамі, салёныя грыбы, дзясятак калдуноў, а з усіх бакоў толькі і чутна было:*

*— А вось пампушкі з часнаком... А вось, пане, кавалак шыначкі дзікага япрука, наперчаны, агнём гарыць. Памяцю маці заклінаючы — вазьміце... А вось цудоўная... А вось незвычайны...*

*— Вось як у нас па-беларуску частуюць, — рагатаў гаспадар».*

Ад такой колькасці прапаноў можна разгубіцца. Прапануем пачаць з пампушак з часнаком.

***Што спатрэбіцца:***
***шклянка малака,***
***500 грамаў мукі,***
***2 сырыя яйкі,***
***1 ст.л. цукру,***
***4 ст.л. алею,***
***11 г сухіх дражджэй,***
***4 зубкі часнаку,***
***соль.***

***Парада: пампушкі лепш падаваць адразу, цёплымі.***

***Як гатаваць:***

Спачатку трэба падагрэць малако (каб было цёплым, але ніколечкі не гарачым), потым дадаць у яго дрожджы, адно яйка, цукар, соль, алей — і ўсё перамяшаць. Пасля далучыць муку і замясіць цеста. Прыблізна гадзіну яно павінна пастаяць у цёплым месцы, каб «падрасці». Дрожджы — кулінарныя асілкі — будуць працаваць яшчэ лепш, калі посуд з цестам накрыць ручніком. Маса павінна павялічыцца ўдвая. Калі патрэбны час прайшоў, і ты, дружа, дачакаўся, — прымайся за працу. Ад цеста адскубвай невялікія кавалачкі, на злёгку прысыпанай мукою паверхні «катай» шарыкі і выкладай іх на бляху (яе трэба падрыхтаваць: заслаць пергаментнай паперай і вышмараваць алеем) на адлегласці 5 сантыметраў адзін ад аднаго.

А памятаеш, у нас заставалася яшчэ адно яйка? Зараз яно спатрэбіцца… Узбіваем яго і змазваем пампушкі, каб атрымалі пры выпяканні залацісты колер і смачную скарыначку.

Страву трэба выпякаць у духоўцы пры тэмпературы 200 градусаў 25—30 хвілін. Не забудзься пра соус з часнаку, якія ж без яго пампушкі! Змяшай алей, ваду, часнок (яго трэба выдушыць праз прэс), дадай солі па смаку — і гатова. Засталося толькі гарачыя пампушкі паліць гэтым соусам.

Смачна есці!

***Літаратурны кулінар Улад БЯРОЗКІН***

# Бярозка


быць паспяховым і ўдзячным



*Штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс (для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту)*
***Выдаецца са снежня 1924 года***
***Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны»***

Заснавальнік
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»

В.а. галоўнага рэдактара
Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА



Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас:
220013, г. Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.
Паштовы адрас:
220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
bjarozka@zviazda.by
http://www.maladost.lim.by/berezka
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.

Падпісныя індэксы:
74822 — індывідуальны
74888 — індывідуальны льготны для членаў БРПА
748222 — ведамасны
74879 — ведамасны льготны для ўстаноў адукацыі і культуры

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 210 ад 23.04.2013, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Намеснік галоўнага рэдактара:
Г. П. АЎЛАСЕНКА
Рэдактары:
К. В. ЗАХАРЭВІЧ, Ю.С. ВАЎЧОК
Мастацкі рэдактар:
А.У. ГАЛОТА
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
Г. К. КІРЭЕНКА
Камп'ютарны набор:
А. Г. КАХНОЎСКАЯ
Стылістычны рэдактар:
К. С. ГОЛУБ

Падпісана да друку 08.10.2015 г.
Фармат 60x84 1/8. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 5,58. Ул.-выд. арк. 5,23.
Тыраж 1195 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«БудМедыяПраект»
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск





Клуб сяброў часопіса (які фарміруецца з кожным нумарам і складаецца з школ аўтараў, а таксама школ з найбольшай колькасцю падпісчыкаў) прадстаўлены на сайце.

*На першай старонцы вокладкі — малюнак Даны ЦЮПЕРАК, Мінская гімназія-каледж мастацтваў.*

## ПЫТАННІ ДЛЯ ЗНАХОДЛІВЫХ:

**1.** Назавіце сярэдняе арыфметычнае паміж матацыклам і веласіпедам.
**2.** Ішоў паляўнічы каля башні з гадзіннікам. Зняў з пляча ружжо і стрэліў. Куды ён патрапіў?
**3.** Чым адрозніваецца вада ад блізнят?
**4.** На што подобная палова апельсіна?
**5.** Карысная рэч, але мы чамусьці да яе заўсёды спінай паварочваемся.
**6.** У адной сям'і трое братоў і ў кожнага сястрычка. Колькі дзяцей у гэтай сям'і?
**7.** Сядзіць чалавек, але нельга сесці на ягонае месца, нават калі ён устане і пойдзе. Дзе ён сядзіць?
**8.** Што павялічыцца на трэць, калі будзе пастаўлена дагары нагамі?
**9.** Што знікае, як толькі гэта назавеш?




Маленькі хлопчык вельмі жадаў займець сабачку. Вырашылі бацькі яго парадаваць і на дзень нараджэння купілі ў падарунак здаравеннага сенбернара.

Паглядзеў хлопчык на сенбернара і кажа:

— Я не зусім зразумеў, каго з нас каму падарылі...

***— Чаму ты ніколі па вечарах не выходзіш у двор пагуляць? — пытаецца адзін хлопчык у другога.***

***— Ды тата ў мяне вельмі строгі! — уздыхнуўшы, адказвае той. — Патрабуе, каб я каля яго сядзеў увесь той час, пакуль ён мае хатнія заданні выконвае.***

Палова ўрока прайшла, як раптам адчыняюцца дзверы, і ў клас заходзіць Вовачка.

— Чаму ты зноў спазніўся? — строга пытаецца настаўніца. — Што здарылася на гэты раз?

— На мяне бандыты напалі! — кажа панура Вовачка. — Узброеныя!

— О, божа! — ускрыквае настаўніца. — І што яны зрабілі?

— Самае горшае, што маглі зрабіць! Адабралі ўсё хатнія заданні!

## Падарунак ад  Вожыка

Часопіс сатыры і гумару



Мастак Алег ГУЦОЛ

Адказы на пытанні для знаходлівых:

1. Мапед.
2. У міліцыю.
3. Вада — «аш два о», а блізняты — «о, аж два!».
4. На другую палову апельсіна.
5. Крэсла альбо стул.
6. Чатыры (тры хлопчыкі і адна дзяўчынка).
7. На вашых каленях.
8. Лічба 6.
9. Цішыня.

*Мінская гімназія № 75 прадстаўляе*

# СІНАГОГА Ў БЫХАВЕ





*Макет сінагогі ў Быхаве. Аўтар — Кацярына Зубовіч. Кіраўнік — Таццяна Васільеўна Вайтэнка.*




Пабудавана ў XVII стагоддзі, з цэглы, з абарончымі мэтамі, у стрыманым стылі. Гэта калі гаварыць пра яе, сінагогу ў Быхаве, простымі словамі, канстатуючы сам факт яе існавання. Калі ж хочацца праз гэтую старонку вокладкі, як праз партал, трапіць у свет прыгод, то можна ўзгадаць пра тутэйшую біму. Бачыш яе на адным са здымкаў? Гэта месца ў цэнтры сінагогі, дзе падчас набажэнства чытаецца сувой Торы (іўдзейскай Бібліі) і адпаведнага ўрыўка з кнігі пракаў (Гафторы). У Быхаўскай сінагозе гэта чатыры васьмігранныя калоны са сталом паміж імі. Увогуле, у Беларусі захаваліся толькі чатыры бімы. І іх варта ўбачыць, дружа. Як наконт зладзіць падарожжа ў стылі Індыяны Джонса або Лары Крофт?..